*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
8
САКАВІКА
1991 г.
№ 10 (3576)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)


## ЧЫТАЙЦЕ





# Са святам вас, дарагія жанчыны!

# Кола Дзён

**Ёсць афарызм: «Лепшая навіна — адсутнасць усяляніх навін». Гэта, канечне, не ісціна, а ўсяго толькі парадокс. Тым не менш, і падзея, якая не адбылася, — таксама свайго роду падзея.**

**Напрыклад, 1 сакавіка НЕ адбылося даўно абяцанае афіцыйнае павышэнне цэн. Праўда, цэны на шмат якія тавары і без таго няспынна растуць, а большасці з іх на прылаўках няма наогул.**

**Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў НЕ выступіў, як было дамоўлена, у Вярхоўным Савеце БССР. З Магілёўшчыны прэзідэнт адразу адбыў у Маскву.**

**Дэпутаты беларускага парламента НЕ прынялі праект пастановы «Аб ліквідацыі прывілей кіруючых работнікаў БССР» у апошні дзень сесіі.**

**А цяпер пра тое, што адбылося на тыдні.**

**28 лютага**

ў ходзе паездкі ў Японію дэлегацыі з Беларусі Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч сустрэўся і меў гутарку з прэм'ер-міністрам Т. Кайфу.

Старшыня Вярхоўнага Савета СССР А. Лук'янаў сустрэўся з кіраўнікамі дэлегацыі рэспублік, якія працуюць над Саюзным дагаворам. Хоць работа і набліжаецца да заканчэння, адрозненні ў пазіцыях рэспублік па некаторых важных пытаннях застаюцца сур'ёзнымі.

**1 сакавіка**

пачаліся забастоўкі на шахтах Данбаса і іншых вуглездабываючых рэгіёнах.

Папераджальная двухгадзінная забастоўка адбылася на Мінскім маторным заводзе. Адміністрацыя абяцала ўзняць расцэнкі.

**2 сакавіка**

ў Мінску прайшоў Устаноўчы з'езд Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.

Чарговы сход Грамадзянскага савета Беларусі прайшоў не як звычайна — у будынку Мінгарсавета (гэтым разам у памяшканні было адмоўлена), а... у зале Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Грамадзянскі савет прыняў пагадненне аб узаемнай падтрымцы незарэгістраваных грамадскіх арганізацый і заклікаў больш актыўна ствараць незалежныя прафсаюзы.

**3 сакавіка**

ў Латвіі і Эстоніі прайшлі апытанні насельніцтва. Каля 75 працэнтаў апытаных у Латвіі выказаліся за яе дзяржаўную самастойнасць. За аднаўленне дзяржаўнай незалежнасці Эстоніі выказаліся звыш 77 працэнтаў удзельнікаў у рэспубліцы.

**4 сакавіка**

Вярхоўны Савет СССР ратыфікаваў комплекс дагавораў з ФРГ.

Пад старшынствам Прэзідэнта СССР сабраўся на першае пасяджэнне Кабінет міністраў.

**6 сакавіка**

ў Дзяржаўнай філармоніі БССР адбыўся вялікі святочны канцэрт, прысвечаны Міжнароднаму жаночаму дню.

# ПАРТЫЯ НАДЗЕІ

## З Устаноўчага з'езда Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады

**— ХОЧАЦЦА ПАРАДАВАЦЦА разам з вамі: адбылася гістарычная з'ява — мы адрадзілі, а можна сказаць, стварылі нанова партыю сацыял-дэмакратыі. Партыю надзеі, партыю пакрыўджанага і абражанага, падманутага народа, які нацярпеўся за семдзесят гадоў ад таталітарнай сістэмы... Мы свядома становімся ў шэрагі змагання за будучыню нашага народа. Мы ідзём туды не для таго, каб шукаць сабе нейкія партфелі і крэслы; мы свядома ідзём на тое, што нас будуць ганіць; мы ведаем, што ярлыкі для нас гатовы. Але мы будзем рабіць так, як гаворыць нам біблейская мудрасць — паклаўшы рукі на плуг, не азірайся... Дык давайце ж падымем дзірван нашай няшчаснай гісторыі, узаром гэтую самую глебу, каб прараслі на ёй залатыя зярняты нашай надзеі, нашай будучыні. І няхай нам у гэтай сяўбе спрыяе і наша прырода, і наш народ, і ўсе сілы — нябесныя і зямныя!**

Гэтымі словамі завяршыў Устаноўчы з'езд БСДГ гісторык Міхась **Ткачоў**, абраны на форуме старшынёй новай партыі. Зала Дома літаратара, дзе 2—3 сакавіка стваралася Грамада, памятае шмат самых розных сходаў — і такіх, калі сумам зялёным павявала яшчэ на подступах да будынка на вуліцы Фрунзе, і такіх, калі пасля выступлення якогасьці істэрыкуючага прамоўцы хацелася бегчы адсюль куды далей... Гэтым разам бацькі-заснавальнікі БСДГ разыходзіліся відавочна задаволеныя, з усведамленнем годна зробленай справы.

Перш чым прыступіць да выкладання таго, што складала змест з'езда, хочацца адзначыць зладжанасць яго працы, высокі ўзровень падрыхтоўкі праектаў дакументаў, уважлівае стаўленне да працэдуры. Стараннямі сяброў аргкамітэта Анатоля Гурыновіча, Ігара Чарняўскага, Алега Трусава і іншых форум у элегантным стылі прайшоў усю сваю дыстанцыю, абмінаючы пратакольныя рыфы. Вядома, спрыяла гэтаму і тое, што ў зале сабраліся аднадумцы, паміж якімі не трэба было лішніх слоў.

УПЕРШЫНЮ ініцыятыўная група па стварэнні (адраджэнні) БСДГ абвясціла пра сябе напрыканцы мінулага года, на форуме інтэлігенцыі Беларусі. З цягам часу група пашырыла свой склад і ўзяла на сябе абавязкі арганізацыйнага камітэта па скліканні і правядзенні Устаноўчага з'езда партыі. «ЛіМ» інфармаваў чытачоў пра гэтую дзейнасць, друкаваў праекты асноўных дакументаў БСДГ.

І вось — з'езд. 154 паўнамоцныя дэлегаты — з Мінска і ўсіх абласцей Беларусі. Паводле сацыяльнага становішча — пераважна творчыя, навуковыя, інжынерна - тэхнічныя работнікі. Шмат людзей з дэпутацкімі значкамі Саветаў розных узроўняў. Дзве трэція дэлегатаў—ва

**(Працяг на стар. 4).**

# У КІЕЎ — З ПЕСНЯЙ

У Кіеве адбылася студэнцкая канферэнцыя «Нацыянальна-народная культура ў кантэксце гісторыі», удзел у якой бралі фальклорныя калектывы з Алма-Аты, Уладзівастока, Драгобыча, Львова, Мінска, Рыгі.

Са сталіцы Беларусі ў Кіеў прыехалі фальклорная суполка пад кіраўніцтвам супрацоўніка гісторыка-культурнага запаведніка «Заслаўе» Уладзіміра Бярберава і студэнтка філалагічнага факультэта Беларускага універсітэта Алеся Сёмуха, якая выступіла ў Кіеве з дакладам «Канцэпцыя нацыянальнай культуры (літаратуры) на Беларусі».

Суполку запрасілі на адкрыццё выстаўкі ў Кіеўскім музеі архітэктуры і побыту пад адкрытым небам.

«Адкуль бераце вы свае песні?» — спытаў я ў салісткі фальклорнай суполкі Наталлі Матыліцкай. «Са зборнікаў, з запісаў уласных фальклорных экспедыцый», — адказала яна. Усе яны — студэнты Беларускага універсітэта — неаднойчы бывалі на дыялектычнай і фальклорнай практыцы, дзе і запісвалі ад старых людзей беларускія песні.

**Сяргей ШАПРАН.**

# ДАПАМОГА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

На гэтым тыдні ў Кармянскім раёне, жыхары якога моцна пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, пабывалі прадстаўнікі неўрадавай арганізацыі «Евангелічная моладзь» з Ніжняй Саксоніі (ФРГ). Ад імя гэтай арганізацыі В. Юнг перадаў лекі на 27 тысяч марак, а таксама запрашэнні на аздараўленне ў Германію ў чэрвені г. г. для некалькіх тысяч дзяцей.

А ў Чэрыкаўскай раённай бальніцы пабываў днямі член міжнароднай асацыяцыі «Урачы свету супраць атамнай вайны» У. Гардэр. Над бальніцай узята пастаяннае шэфства.

Пасрэднікам у гэтых дабрачынных акцыях выступае фонд «Дзеці Чарнобыля», утвораны па ініцыятыве аднайменнага камітэта БНФ. **НАШ КАР.**

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

# НА ЧЫІМ СУМЛЕННІ РАСКОЛ?

Артыкул «Раскол» народнага дэпутата БССР, старшыні Сойма БНФ «Адраджэнне» З. Пазняка, надрукаваны ў «ЛіМе» за 21 снежня 1990 года, я прачытаў з цікавасцю, бо аўтар піса́ў аб тым, што трывожыць кожнага, каму неабыякава, што будзе з намі.

...Лічу, што мне пашанцавала. З'яўляючыся членам рэспубліканскага Савета ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл, членам прэзідыума Беларускага Экалагічнага Саюза, я калінікалі бываю ў Мінску па справах гэтых грамадскіх арганізацый, сустракаюся з прадстаўнікамі ўсіх куткоў Беларусі. А гэта дае магчымасць атрымліваць дадатковую інфармацыю, якую не заўсёды знойдзеш у друку, дае магчымасць параўнаць розныя меркаванні.

Дык ці сапраўды ў нашым грамадстве адбываецца раскол замест кансалідацыі? І калі гэта сапраўды так, то на чыім гэта сумленні?

За прайшоўшы пасля падзей 7 лістапада час супакоіўся несусветны вэрхал ва ўсіх сродках масавай інфармацыі, належачых КПБ. Здаецца, прайшло дастаткова часу, каб вінаватых прыцягнуць да адказнасці, але... але сёння, слава Богу, цалкам паслухмяная яшчэ ўчора партапарату Феміда не можа па камандзе пакараць кагосьці і дзейнічаць па прынцыпе «Быў бы чалавек, а артыкул падбяром».

Калі ў першыя дні масавай істэрыі былі чутны нават патрабаванні (прагучаўшыя і на пленуме рэспубліканскага Савета ветэранаў) бязлітасна пакараць «экстрэмістаў», пазбавіць Пазняка і яго паплечнікаў дэпутацкіх мандатаў, нямала простых людзей у глыбінцы былі згодны з такімі патрабаваннямі, то сёння яны ўжо задаюць пытанне: чаму не затрыманы тыя, хто таптаў нагамі кветкі, ускладзеныя да помніка У. І. Леніну? — і задумваюцца, не атрымаўшы адказу на сваё пытанне.

А сапраўды — чаму? Ды таму, што калі гэта зрабіць (а каго затрымаць і дзе іх шукаць — добра вядома), то адразу ўсплывуць і хросныя бацькі гэтага правакацыйнага вэрхалу, мэта якога — расколоць наша грамадства.

На першы погляд, неверагодна, але гэта так: партыя, якая аб'явіла на ўвесь свет, што «гэтак жыць нельга», сёння з'яўляецца сама ворагам перабудовы! Бо яна ўбачыла, якую смяротную небяспеку нясе перабудова манапольнаму праву на ўладу гэтай партыі.

Пэўная разгубленасць сярод партапарату, якая мела месца, скончылася. Партапаратчыкі «выходзяць з акопаў». Ім зноў «пашанцавала», і выбаршчыкі «аддалі» свае галасы за кандыдатаў ад партапарату, што дало ім магчымасць з усіх перакрыжаванняў крычаць: «Партыя адмовілася ад адміністрацыйна-камандных функцый».

Сёння ўзяты жорсткі курс на ўзмацненне партыйнага ўздзеяння на працоўныя калектывы. Ад народных дэпутатаў БССР, дэлегаваных у Вярхоўны Савет ад ветэранскай арганізацыі, патрабавана рашуча перайсці ў наступ і «даць адпор дэмагогам ад апазіцыі БНФ».

Першы сакратар ЦК КПБ А. Малафееў, выступаючы на апошнім пленуме ЦК КПБ, выказаў незадавальненне ў адрас дэпутатаў-камуністаў (дарэчы, іх у складзе народных дэпутатаў БССР — 296). У прыватнасці, А. Малафееў сказаў: «86 % камуністаў сярод дэпутатаў, а нашага ўплыву амаль не адчуваецца. Апазіцыя, трэба аддаць ёй належнае, меншай колькасцю праяўляе значна больш ініцыятывы па любых пытаннях. Трэба рабіць з гэтага самыя сур'ёзныя вывады».

І вывады амаль адразу былі зроблены: кожны дэпутат-камуніст павінен галасаваць супраць якой бы там ні было прапановы, зыходзячай ад апазіцыі БНФ, калі яна адхіляецца кіраўніцтвам КПБ. А паколькі будзе галасаванне, то ўсё дэмакратычна!

Вось толькі ці ўсе дэпутаты-камуністы будуць згодны выконваць ролю механічных салдацікаў і галасаваць не па сваім разуменні, а па камандзе свайго партыйнага шэфа? На гэтае пытанне адкажа час.

А што дэпутатам-камуністам угатавана менавіта роля гэтых механічных салдацікаў для галасавання, красамоўна пацвярджаюць наступныя словы таго ж А. Малафеева: «У складзе дэпутацкага корпуса ў Вярхоўным Савеце дзейнічаюць непасрэдна сакратары ЦК тт. Камай і Ціхіня, і я хачу выказаць агульную думку, што яны ў бліжэйшы час знойдуць там неабходнае ўзаемаразуменне з камуністамі-дэпутатамі». Увогуле, у гэтым ніякага парушэння няма. Усе партыі, што атрымалі месцы ў парламенце, выступаюць ад імя сваёй партыі. Але ў нашым выпадку справа ідзе да таго, каб аб'яднаць дэпутатаў-камуністаў не на агульную справу — дэмакратычную перабудову нашага грамадства, а дзеля адзінай мэты — захаваць партыйны дыктат, але цяпер пад прыкрыццём парламенцкай дэмакратыі.

Станоўча ацэньваючы ў цэлым артыкул З. Пазняка, тым не менш лічу сваім абавязкам звярнуць увагу на адну супярэчлівасць у артыкуле. Гэта супярэчлівасць, на маю думку, і дала магчымасць магільшчыкам перабудовы з партапарату падняць даволі магутную хвалю дэзінфармацыі ў адрас кіраўніцтва БНФ.

Супярэчлівасць гэта ў тым, што, зыходзячы з правільных тэарэтычных абгрунтаванняў аб функцыях помнікаў (гістарычная, эстэтычная, ідэалагічная), была зроблена палітычная памылка — ускладанне «дароў» да помніка У. І. Леніну.

Ёсць добрая беларуская прымаўка: «Гавары, а рукам волю не давай». Кожны мае права прызнаваць і прытрымлівацца ў жыцці той ці іншай ідэалогіі, быць вернікам ці атэістам. У кожнай ідэалогіі, у кожнай рэлігіі ёсць свае сімвалы, свае ідалы, свае святыя. Дык ці добра будзе, калі мы ўсе пачнём у тым ці іншым выглядзе абражаць ідалаў ці святых сваіх ідэалагічных праціўнікаў? Мяркую, што ні да чаго добрага гэта не прывядзе.

Калі я слухаю выступленні Зянона Станіслававіча, заўсёды здзіўляюся яго мужнасці, уменню ўкласці ў малы аб'ём слоў вялікі сэнс, яго непахіснасць у адстойванні агульначалавечых каштоўнасцей, нацыянальнай годнасці беларусаў. І не да ўлады ён ірвецца, а да праўды. А вось тыя, хто баіцца гэтай праўды, хто тапіў гэтую праўду ў народнай крыві — той і сёння гатоў усё паўтарыць.

Вось чаму я не губляю надзеі, што ў яго хопіць мужнасці прызнаць акцыю з ускладаннем «дароў» да помніка У. І. Леніну 7 лістапада 1990 года палітычнай памылкай, якая, дарэчы, дорага каштавала для ўсяго руху, адхіснуўшы ад сябе нямала ўчарашніх прыхільнікаў БНФ, асабліва ў глыбінцы. За іх цяпер трэба зноў змагацца, але рабіць гэта будзе значна цяжэй.

Пераасэнсаванне сутнасці ідалаў, якім пакланяўся, — гэта вельмі няпросты працэс. Нават прыняўшы хрысціянства, яшчэ доўга шмат хто з ахрысціўшыхся ўпотай маліўся язычным багам. Не ўлічваць гэтага —значыць рабіць памылку.

А што датычыць помнікаў У. І. Леніну, дык час усё расставіць па сваіх месцах. Ужо сёння дзейнічае «эффект бумеранга» — масавае тыражаванне не маючых ніякай каштоўнасці помнікаў падпісала ім свой прысуд.

Сапраўды, у нашым грамадстве ўсё мацней адчуваецца раскол. І адказнасць за гэта нясуць не помнікі, а жывая партыйна-бюракратычная сістэма з канкрэтнымі пасадавымі асобамі.

**Ф. ШКІРМАНКОЎ,**
**дэпутат Слаўгарадскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.**

БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

**Пытанне, якім шляхам, куды і з кім ісці далей беларусам, будзе вырашацца палітыкамі, але вырашэнне гэтага пытання немагчыма без асэнсавання ролі і месца беларусаў у гісторыі Еўропы, што могуць і павінны зрабіць філосафы, паэты, мастакі.**

**Адначасова перад беларусамі паўстае яшчэ адна не менш складаная праблема — вызначыцца ў адносінах да саміх сябе. Мы трагічна доўга не мелі такога ладу жыцця, які адпавядаў бы сутнасці нашых памкненняў і як вынік — гэтыя памкненні аказаліся альбо зусім не высветленымі, альбо ў значнай ступені дэфармаванымі. Адсюль і цьмянасць, заблытанасць гістарычнага вобраза беларусаў.**

**Валянцін АКУДОВІЧ**

# Пошукі страчанага вобраза

НЕЛЬГА СКАЗАЦЬ, што прага ведання, прага ісціны была характэрнай рысай нашага народа. Аднак калі для ведання адкрываліся магчымасці, заўсёды знаходзіліся людзі, якім карцела разблытаць тайну маўклівага этнасу.

Магчыма, сёння працэс заглыблення ў вытокі яшчэ не дасягнуў таго ўзроўню, які мы мелі ў першай чвэрці дваццатага стагоддзя, але ўжо вызначыўся апярэджваючы той узровень патэнцыял. Мікола Ермаловіч новым прачытаннем старых летапісаў заклаў падмурак сучаснай айчыннай гістарыяграфіі, якая, мяркуючы па ўсім, зможа асэнсаваць рух народаў з пункту гледжання саміх беларусаў, а не іх суседзяў, як гэта было раней.

У вершах і прозе Ларысы Геніюш («Споведзь») выявіўся не толькі магутны эстэтычны эфект, але і маральны інтэграл нацыі. Некалі Гогаль казаў пра Пушкіна, што гэта рускі чалавек праз дзвесце гадоў. Пра Ларысу Геніюш можна з упэўненасцю гаварыць, што яна персаніфіцыраваны вобраз «залатой» пары. У нейкім сэнсе нашае старавечча значна багацейшае за сучаснасць, хаця, трэба спадзявацца, саступае будучаму. Дарэчы, у духоўным жыцці беларусаў жанчыны адыгрывалі, як мне ўяўляецца, куды больш важкую ролю, чым у духоўным жыцці іншых народаў. Ефрасіння Полацкая, Бона Сфорца, Алаіза Пашкевіч, Ларыса Геніюш — гэта нясучыя апоры таго духоўнага моста, па якім беларусы праходзяць над плынню небыцця.

У мяне зусім няма жадання зараз кранацца палітыкі, але так атрымоўваецца, што ў цяперашняй рэальнасці нацыянальны палітычны рух з'яўляецца не столькі палітычным, колькі духоўным, і яго лідэры ў значна большай ступені, чым пісьменнікі, мастакі, святары, спрыяюць выяўленню натуральнага аблічча нацыі.

У гэтым руху да вытлумачэння саміх сябе вось-вось узнікне пытанне: Расія і Мы. Няма чаго і казаць, наколькі яно балючае і трагічнае.

Мы і Расія — гэта не рыторыка, гэта на самай справе пытанне жыцця і смерці беларусаў як этнасу.

Не спрабуючы нават акрэсліць усю гісторыю праблемы, некалькі слоў пра адну з вызначальных эпох. Агульнавядома, што беларусы былі тэрытарыяльным, эканамічным і культурным апірышчам Вялікага княства Літоўскага і ваявалі пераважна з Вялікім княствам Маскоўскім (мы пра гэтую эпоху), а потым у федэрацыі з Польскай Каронай (Рэч Паспалітая) з Расейскай імперыяй. Што з гэтага атрымалася, таксама добра вядома, сумарны вынік для беларусаў можа выказаць хіба адно слова — катастрофа. Толькі ў сярэдзіне семнаццатага стагоддзя загінуў кожны другі жыхар нашага краю (было 4,9 мільёна, засталося 2,5).

Пагасла сонца над Вялікай Літвой, узышло — над Вялікай Расіяй.

«Я памятник себе воздвиг нерукотворный...», і далей першы паэт маладой яшчэ вясёлай імперыі пералічвае народы, якія прыйдуць схіліцца перад ім за тыя добрыя пачуцці, якія ён лірай абуджаў у сэрцах людзей.

«Я не паэт. Крый мяне божа...», і далей пра тое, што колькі беларусы нікога не маюць, то хай будзе хаця б Янка Купала.

У гэтых «помніках» двух нацыянальных геніяў дакладней, чым у лічбах, прачытваецца адказ на пытанне: каму якімі духоўнымі здабыткамі і стратамі абярнулася эпоха тых войнаў.

Канешне, у рускіх (маскоўцаў) ужо была ідэя Трэцяга Рыма і Града Божага на зямлі, але замацаванне месіянскіх адносін да рэчаіснасці, хутчэй за ўсё, адбылося менавіта тады, калі Пераможац на ўздыбленым кані працяў дзідай сэрца Рэчы Паспалітай і двухгаловы арол распасцёр крылы над Усходняй Еўропай.

«Чорт пабяры! Расія асаблівы свет», — гэтая версіфікацыя Пагодзіна на тэму чаадаеўскага азарэння аб'яднае ў сабе факт ужо замацаванага погляду на месца Расіі сярод іншых народаў. Значна пазней Бярдзяеў амаль дакладна паўторыць гэтую формулу: «Расія — асаблівая краіна, не падобная ні на якую краіну свету».

Расія — не Азія, Расія — не Еўропа, Расія — сёмы мацярык, адным словам — «асаблівы свет»... І далей духоўная ідэя Расіі будзе развівацца пад знакам выключнасці, колькі б ні кідалася кпінаў у бок самога знака.

Вядома, не зусім слушна (ці зусім не слушна) звязваць выспяванне этнічнага светапогляду з пэўнымі гістарычнымі падзеямі, але даволі верагодна, што катастрафічны вынік супрацьстаяння з Расіяй шмат у чым паспрыяў замацаванню ў свядомасці беларусаў філасофіі стыхійнага фаталізму.

Фаталізм глыбока індывідуалістычны светапогляд, ён вымагае не толькі падпарадкавання фатуму, згоды з тым, што ёсць, але і тоеснасці яго аб'екта самому сабе. На апошняе трэба звярнуць асаблівую ўвагу, паколькі сэнсавы цэнтр беларускага варыянта фатальных адносін да рэчаіснасці менавіта тут. Імкненне да тоеснасці самому сабе, да не-выхаду за межы гэтай тоеснасці ў знешні, духоўна іншы круг, зрабілася вызначальным у светапоглядзе беларуса.

Дарэчы, для першай пост-катастрафічнай эпохі падобнага роду ўнутраная ізаляцыя мела і глыбокі быційны падтэкст, паколькі этнаграфічная самадастатковасць у значнай ступені зберагала этнас да тых, лепшых часоў, калі ў яго з'явіцца магчымасць свабодна выказаць сябе.

Зразумела, наколькі падобнае фаталістычнае светабачанне адрозніваецца ў знешніх праявах ад «рускай ідэі», якая ніколі не мела і не шукала для сябе апошняй рысы па этнаграфічным ці якім-кольвек іншым крытэрыі. Магчыма, менавіта таму, што руская ідэя не была прывязана да пэўнага месца на зямлі, яна і імкнулася да ўсеахопнасці. І, напэўна, таму сучасны нацыянал-патрыятычны рух у Расіі наўрад ці будзе крэўна ўсвядомлены расійскім грамадствам да таго часу, пакуль не злучыць сябе з якой-небудзь бязмежнай ідэяй, накшталт пабудовы Трэцяга Рыма альбо сусветнага камунізму.

Падазраваць місію Расіі, як вызначальную для лёсу ўсяго чалавецтва, натуральна і нават «обыденно» для рускай думкі. «Мала того — за ёю (Расіяй. — **В. А.**) прытоена нейкая боская задума, ад якой мы не маем права адмовіцца і ад якой мы не здолелі б адмовіцца, нават калі мы гэтага захацелі...» (І. А. Ільін).

І нішто падобнае немагчыма для менталітэту беларуса. У адрозненне ад рускіх нам уласцівы не месіянскі, а гуманістычны погляд на жыццё. Талерантнасць — гэта тая быційная першааснова, на якой мы «суть есть». Калі рускі чалавек «слишком широк» і яго не лішне было б звузіць (Ф. М. Дастаеўскі), то беларус залішне талерантны. Зусім неверагодна, каб беларусы прапанавалі і тым болей спрабавалі рэалізаваць агульную для ўсяго чалавецтва канструкцыю светабудовы. Яны такую і выдумаць не змогуць, але не змогуць выдумаць таму, што гэтая канструкцыя павінна разтрушчыць усе іншыя пабудовы, бо яна а г у л ь н а я для ўсіх.

Праваслаўе, каталіцызм, іудаізм, пратэстантызм, сацыялізм, камунізм... Усё, што мела волю займець месца на нашай зямлі, знаходзіла сабе гэтае месца. Талерантнасць у беларусаў, безумоўна, мацней інстынкту самазахавання, і ў гэтым сэнсе так і карціць яе «звузіць». Але, здаецца, якраз гэта і немагчыма. На немагчымасці «звузіцца» ў талерантнасці заўсёды спатыкалася нацыянальнае адраджэнне. Ідэя сябе ў этнасе, а не этнасу ў сабе, ідэя в я л і к а г а этнасу, агароджанага нацыянальнай дзяржаўнасцю, ніяк не адолее першапачатковую сутнасць, разбэрсаную фатальным светапоглядам на адзінкавыя і спавітыя талерантнасцю тоеснасці. Тут яшчэ трэба ўлічваць і тое, што адваротны, пабытавы бок талерантнасці — канфармізм.

АЛЕ, ЯК БЫ ТАМ НІ БЫЛО, ідэя адраджэння сёння зноў пануе ў нашым грамадстве. Дарэчы, у сувязі з тым, што вось ужо якое стагоддзе гэтая ідэя не рэалізуецца (Уладзімір Конан сцвярджае, што цяпер мы маем пятае адраджэнне), яна набыла значэнне пастаяннага і ўжо натуральнага фактара нашага нацыянальнага быцця, зрабілася нечым накшталт хранічнай хваробы, якая час ад часу рэзка абвастраецца.

Для рассыпаных на адзінкавыя тоеснасці беларусаў саборная ідэя адраджэння — залішне шырокая ідэя, для ўсеахопнага светапогляду рускіх ідэя нацыянальнага адраджэння — занадта вузкая. Але розніца не толькі ў гэтым.

Для Расіі адраджэнне — гэта вяртанне да сябе гістарычнай, для нас — вяртанне ў Еўропу. На гэты раз гаворка ідзе не пра палітычны аспект праблемы, хаця трэба заўважыць, што палітычная ідэя «вяртання» Беларусі ў Еўропу, дзе некалі яе народ, па праву стваральніка адной з буйнейшых еўрапейскіх дзяржаў, займаў пачэснае месца, ідэя Беларусі як звычайнай Еўрапейскай краіны, падобнай да Аўстрыі, Венгрыі, Чэха-Славакіі, атрымлівае сёння ўсё большае распаўсюджванне і, падобна на тое, папулярнасць.

Хаця беларусы і славянскага напалову (напалову балцкага) кораня, але зусім не «расейскага», як чамусьці прынята лічыць, а еўрапейскага паходжання. Яны нарадзіліся ў лоне Еўропы, доўгі час актыўна ўдзельнічалі ў яе фарміраванні і сам як народ былі сфарміраваны ёю. Канешне, вонкава беларусы як этнас небяспечна падобныя да народа Расіі (гэтаму ў немалой ступені спрыяла, акрамя гвалтоўнай русіфікацыі, татальная савецізацыя). На падставе знешняга падабенства робяцца незлічоныя высновы аб блізкасці нашых нацый і аб іх паступовым зліцці.

Падабенствы, і падабенства карэннага ў нас, канешне, даволі, але гэта не дае права забывацца на тое, што мы два зусім розныя народы з адметнымі шляхамі і гістарычнымі лёсамі і будзем такімі да таго часу, пакуль будзем. У сувязі з навуковымі і не надта навуковымі практыкаваннямі на тэму «зліцця» хацелася б успомніць адзін пасаж старэйшага з братоў Кірэеўскіх: «Некаторыя думаюць, што пазнейшае засваенне іншаземнай адукаванасці можа з часам перастварыць усяго рускага чалавека... Ці патрэбна абвяргаць падобныя меркаванні. Знішчожыць асаблівасці разумовага жыцця народнага гэтак жа немагчыма, як немагчыма знішчожыць яго гісторыю. Падмяніць літаратурнымі тэрмінамі карэнныя перакананні народа гэтак жа лёгка, як адцягненай думкай перасунуць косці маладога арганізма».

Тое самае можна сказаць і пра беларусаў. Толькі трэба дадаць, што немагчыма і «перасунуць» беларусаў з Еўропы ў Расію. Можна было на нейкі час адлучыць іх ад радзімы, аднак рана ці позна павінен быў настаць час вяртання. І тут не лішне будзе яшчэ падкрэсліць, што вяртанне да еўрапейскіх інтэлектуальных і культуралагічных каштоўнасцяў не ёсць мода, сваволства ці часовая прыхамаць. І збочваць у той бок беларусы будуць не таму, што там вальней і абаранкі з макам за так даюць (для ўсіх там зусім не вальней), а таму, што там «карэнныя перакананні народа», нават калі сам народ «у сілу гістарычных абставін» забыўся на гэта.

Вяртанне ў Еўропу — гэта шлях, ад якога «мы не маем права адмовіцца» і ад якога «мы не здолелі б адмовіцца, нават каб мы гэтага захацелі».

Мы — Францішак Скарына, а не Сімяон Полацкі, хаця Сімяон Полацкі — гэта таксама мы. Дзве велічныя постаці зямлі беларускай — гэта два шляхі, аднак не трэба быць асабліва відушчым, каб зразумець, куды вёў беларусаў першы шлях і чым абярнуўся для іх другі.

Увогуле, наўрад ці ў каго атрымаецца вызначыць у пераканаўчых дэфініцыях, што такое еўрапейскі менталітэт, чым ён адрозніваецца ад рускага і чаму экзістэнцыяльна беларусы бліжэй да першага, чым да другога. Тым болей, што ні заходнееўрапейскі інтэлектуалізм, ні рускі містыцызм не сталі вызначальнымі ў нацыянальнай свядомасці беларусаў.

НАПЭЎНА, АДКАЗ можна было б пашукаць у літаратуры, але беларуская літаратура амаль не ставіла перад сабой пытання: хто ён такі, беларус? Адкуль прыйшоў і куды ідзе?

Нягледзячы на гэтую акалічнасць, мы ўсё-такі спынімся на літаратуры як на адным з магчымых аргументаў, бо ўскосных доказаў яе належнасці да заходнееўрапейскай традыцыі (а значыць і належнасці аб'екта яе доследаў), на мой погляд, болей чым дастаткова. Каб гэта ўбачыць, трэба ўсяго толькі паглядзець на беларускую літаратуру не праз штучна створаны прэцэдэнт савецкай літаратуры, а ў натуральным для нашага красамоўнага пісьменства кантэксце літаратуры еўрапейскай. І як толькі мы так паглядзім, то ўбачым, што, напрыклад, Васіль Быкаў «нармальны» еўрапейскі пісьменнік, а яго экзістэнцыяльная проза зусім натуральна кладзецца ў агульны пералік, які пачынаецца Сартрам і Камю. Той жа самы эфект мы атрымаем, калі возьмем ў адпаведным кантэксце любога буйнога мастака: Кузьму Чорнага ці Янку Брыля, Максіма Танка альбо Міхася Стральцова. І тады знікне «феномен» Максіма Багдановіча, паэта з устойлівай характарыстыкай: «паэт еўрапейскага ўзроўню». Узровень, несумненна, ёсць, а феномена — няма, калі глядзець на беларускую літаратуру як на еўрапейскую, а на Максіма Багдановіча — як на яе класіка.

І хай нас не засмучае той факт, што пераважнай тэндэнцыяй у новай беларускай літаратуры была этнаграфічная. Нічым іншым, як непаразуменнем, нельга растлумачыць шырока распаўсюджанае меркаванне, што творы пра вёску — гэта руская літаратурная традыцыя. Нягледзячы на велізарнае, ні з чым не параўнальнае ўздзеянне рускай літаратуры, культуры на наш побыт і лад, беларуская літаратура заставалася (калі не лічыць падробкі і версіфікацыі) у сваім еўрапейскім вымярэнні. Яна актыўна не прыняла ідэйна-сэнсавую дамінанту рускай літаратуры — містыцызм. І не магла прыняць, таму што містыцызм — гэта болей, чым ёсць, гэта разбурэнне тоеснасці, гэта існіна па-за межамі кола жыцця. Этнаграфічная тэндэнцыя ў беларускай літаратуры выказвала роўны самому сабе светапогляд народа, аднак яна зусім не абвяргала тую літаратуру, якая актыўна падкрэслівала сваю прыналежнасць да еўрапейскай культурнай традыцыі (Багдановіч, Жылка, Чорны, Дубоўка, Танк, Разанаў).

Яе, гэтую літаратуру, вымяралі ў сістэме невядома якіх каардынат і называлі то дэкадэнцкай, то заходняй, то яшчэ якой. А яна ўсяго толькі імкнулася да формастваральных ідэй (арганічных еўрапейскаму менталітэту), спрабуючы — магчыма, і не зусім свядома — замацаваць праз форму, натуральную для беларусаў, духоўную традыцыю. І невыпадкова «перабудовачныя» дыскусіі ў нашай літаратуры пачаліся ні з чаго іншага, а з дыскусіі пра форму (артыкул Леаніда Дранько-Майсюка «Як і навошта»).

Форма як сэнс і сутнасць мастацтва ў тэарэтычным абгрунтаванні Дранько-Майсюка — гэта таксама вяртанне на еўрапейскі шлях, адраджэнне беларускага пісьменства ў канонах еўрапейскай эстэтыкі. (Дарэчы, як паэт, Дранько-Майсюк ужо даўно ўладкаваўся за столікам адной з кавярняў Манмартра, пад вокнамі якой цячэ рэчка Гарынь).

Але першым «вярнуўся» Алесь Разанаў. Доўгі час Разанаву ўвогуле не знаходзілася месца ў беларускай літаратуры, адпаведнага кантэксту не знаходзяць і сёння. Што і не дзіўна, паколькі кантэкст шукаецца па аналогіі з рускай літаратурай. А між тым гатычная архітэктоніка вершаў і вершапрозы Алеся Разанава бадай што адзін з самых яскравых прыкладаў беларускай нацыянальнай, але ўжо завершана еўрапейскай літаратуры.

Апошняя літаратурная генерацыя — пакаленне «Тутэйшых» — гэта пераважна паэзія і проза еўрапейскага горада. Праўда, яны (Алег Мінкін, Сяргей Дубавец, Адам Глобус, Уладзімір Сцяпан, Сяргей Кавалёў) н е в я р т а л і с я. Яны н а р а д з і л і с я тут, у еўрапейскім горадзе, і гэта той добры знак, які дазваляе спадзявацца, што некалі (не хутка, вядома) вяртанне адбудзецца, і беларусы зноў збяруцца на сваёй духоўнай бацькаўшчыне.



Вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння І. Мележа, адбыўся ў Доме літаратара. Адкрыў і вёў вечар Барыс Сачанка. З успамінамі выступілі пісьменнікі Іван Шамякін, Алесь Асіпенка, Вячаслаў Адамчык, Анатоль Грачанікаў, Васіль Зуёнак, Мікола Мятліцкі, Іван Чыгрынаў.

На вечары прысутнічала ўдава пісьменніка Лідзія Якаўлеўна.

Фота Ул. КРУКА.

СПАДЧЫНА

# АДЗІН З НАШАНІЎЦАЎ

Серыя «Спадчына», заснаваная ў мінулым, 1990 годзе, заклікана дапоўніць карціну літаратурнага жыцця на Беларусі. Карціна гэтая становіцца ўсё больш стракатай і разнастайнай, дзякуючы новым публікацыям твораў як рэпрэсіраваных пісьменнікаў, так і пісьменнікаў, творы якіх засталіся па нейкай прычыне маладомымі шырокаму чытачу. Сярод апошніх і Стары Улас (Уладзіслаў Пятровіч Сівы-Сівіцкі, 1865 — 1939), кніжка якога нарэшце, у 125-ю гадавіну з дня нараджэння, з'явілася на кніжных паліцах. Гэта першая кніжка паэта-нашаніўца, публіцыста, збіральніка фальклору (пры жыцці творы асобнымі выданнямі не выходзілі) абавязана сваім нараджэннем Вячаславу Рагойшу, укладальніку і падрыхтоўшчыку тэкстаў. Яму ж належаць змястоўны ўступны артыкул і каментарыі. У зборнік уключаны не толькі тыя творы, што друкаваліся ў дакастрычніцкіх і заходнебеларускіх календарах, газетах, зборніках, але і знойдзеныя ў рукапісах.

Гэта пра яго, Старога Уласа, а таксама Лявона Лобіка, А. Петрашкевіча і іншых нашаніўцаў сказаў Максім Гарэцкі, што яны «не толькі «з народа», але і «сам народ». Характарыстыка гэта даволі трапная, бо творы паэта сапраўды ўвабралі ў сябе народную мудрасць, дух яго этычнага ідэалу, дасціпнасць, іскрысты гумар. Творчая дарога паэта пачалася ў даволі сталым узросце — на 42 годзе жыцця з публікацыяй у «Нашай Ніве» вершаў і допісаў. Супрацоўніцтва з гэтай газетай было доўгае і плённае.

Пераважная большасць твораў зборніка — зарыфмаваныя, сюжэтна выразныя апавяданні. Нямала ў ім мастацкіх апрацовак народных легендаў, паданняў («Кумавы магілы», «Курган», «Цікавы», «Тры зладзеі» і інш.). Але паэта прывабліваў не сам па сабе сюжэт легендаў і паданняў: яго больш цікавіў іх чалавечы змест, ідэал дабра. Стары Улас быў схільны апавядаць у вершах пра нейкія выключныя здарэнні, трагічныя падзеі, што абраслі ў народзе легендамі. Адчуваецца ў іх і вялікая цікавасць да чалавечай псіхалогіі. Возьмем вершаванае апавяданне-легенду «Цікавы». У ім расказваецца, як адзін чалавек, наслухаўшыся размоў старых людзей аб тым, што ў ноч перад Вялікаднем «людскім скаціна гаворыць языком», вырашыў падслухаць у хляве гутарку коней. Што ж пачуў гэты цікаўны чалавек?

**Як толькі поўнач глуха прабіла,**
**Цішыня стала нямая**
**І, уздыхнуўшы, загаварыла**
**Сціха кабылка гнядая:**
**«Ой, цяжка праца на мае грудзі!**
**Маю работу не мілу:**
**Гаспадара бо мне трэба будзе**
**Везці пазаўтра ў магілу».**

Рэакцыя гаспадара на вестку аб хуткай ягонай смерці зразумелая: «Ён, як асінка, увесь затросся».

Фінал верша крыху нечаканы: спалоханы гаспадар сапраўды памёр. Празмерная цікаўнасць, даводзіць Стары Улас сваім творам,— караецца, як і ўсё тое, што «празмерна».

Паэт-нашанівец умеў бачыць смешнае ў чалавечым характары, яго цікавілі і камічныя сітуацыі, у якія траплялі героі. Мова яго твораў — маляўнічая, сакавітая, багатая на фарбы народная мова. Здараецца, яна бывае залішне натуралістычнай, што крыху шкодзіць творам, але жывасць, гнуткасць яе інтанацый не могуць не падкупляць. Многія вершы зборніка выклікаюць шчыры смех, як, напрыклад, «Пірог», «Выгаварылася», «Сватаўство», «Спрытны адказ», а таксама вершаваныя апавяданні «Сваты», «Тры зладзеі», «Іголка».

Стары Улас быў далёкі ад ідэй класавай барацьбы. Чалавека ён мераў не класавай прыналежнасцю, а яго духоўнай сутнасцю. Таму ў яго творах не знойдзеш такога пастаяннага смутку, жальбы на долю мужыка-беларуса, як, напрыклад, у «Жалейцы» Янкі Купалы — паэта трагічнага светаадчування. Тэматыка твораў Старога Уласа цесна звязана з народным жыццём, з прыродай. У іх даволі ярка намалявана жыццё вёскі, побыт селяніна, асабліва ў паэме «Год Беларуса». Ён бачыў недасканаласць жыцця, аднак вінаваціў у гэтым чалавека наогул, а не паноў альбо сялян. Селяніна ён не ідэалізаваў, заўважаў у ім не толькі працавітасць, руплівасць, але і схільнасць да гультайства, п'янства, боек і сварак, сквапнасць і жаданне абхітрыць іншых. Высмейваў Стары Улас і паноў, аканомаў, пісараў, судовых работнікаў. Тут усмешка яго нярэдка станавілася здзеклівай, саркастычнай.

У стылістыцы ягоных твораў заўважаецца шырокае ўжыванне фальклорных выяўленча-экспрэсіўных сродкаў, прыказак і прымавак. Вершаванае апавяданне «Не спанадрыў» адрозніваецца іншасказальнасцю, уласцівай часам бытавой казцы. Яно пра тое, як сын не зразумеў глыбокага, патаемнага сэнсу бацькавага запавету:

**Калі ты ідзеш з сахою,**
**З возам, з бараной, з сяўнёю,**
**Не кажы, ідучы з дому,**
**«Памажы, Божа!» нікому.**
**А другое знай, ці чуеш? —**
**Як арэш ці барануеш**
**Ды дамоў будзеш адходзіць,**
**Абгародзіць не зашкодзіць.**
**І нарэшце помні гэта:**
**Ці то восень, вясна, лета,**
**Ці зіма — каб круглым годам**
**Табе яда была з мёдам.**

Успрыняўшы гэтыя словы літаральна, сын стаў рабіць усё так, як раіў бацька. І што ж? Гаспадарка яго заняпала, ён збяднеў, а тут яшчэ людзі смяюцца. І вось аднойчы, калі ён у роспачы стаў плакаць і клясці бацьку, да яго падышоў сівенькі дзядуля і растлумачыў, што меў бацька на ўвазе, даючы свае тры парады. Аказваецца, парада не даваць нікому «Памажы, Божа» азначала, што трэба ўставаць раней за іншых, каб не ён людзям, а людзі яму гэта казалі. Абгарадзіць азначала, што перад тым, як ехаць дамоў, трэба абагнаць узаранае баразёнкай. А парада «каб яда была з мёдам» азначала, што кожная страва будзе салодкай, як мёд, калі добра папрацуеш на полі. Гэты твор, як і шэраг іншых, сцвярджае прыгажосць і багацце вобразнага мыслення народа, яго дасціпнасць.

Цікава будзе пазнаёміцца чытачу і з публіцыстыкай Старога Уласа, якая паўней раскрывае яго погляды на тагачаснае жыццё, дадае цікавыя штрыхі да асобы творцы з народа.

«Мы маем вялікі моўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе»,— нагадваў класік нашай літаратуры Якуб Колас, запрашаючы «абшарыць кішэні сваёй памяці», пераглядзець фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гутаркі, каб знайсці цікавае, свежае слова, увесці яго ва ўжытак, а тым самым абагаціць родную мову. Гэта парада асабліва важная для нас, беларусаў, цяпер, калі мы пакрысе збіраем і выцягваем з забыцця нашы літаратурныя скарбы, ачышчаем мову ад непатрэбных «бюракратызмаў», адшукваем крыніцы жывога слова. Адна з такіх шматлікіх крыніц — творы Старога Уласа.

Зінаіда ДРАЗДОВА.

Спадчына. Стары Улас. Год Беларуса. Вершы. Вершаваныя апавяданні. Публіцыстыка. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.

ВЫДАДЗЕНА Ў МАСКВЕ

# ПАБРАЦІМСТВА: БАРАДУЛІН—СЛАВУК

Кніга выбраных твораў Рыгора Барадуліна для маленькіх «Кошкі ў кошыку», выпушчаная ў 1985 годзе выдавецтвам «Юнацтва» ў перакладзе на рускую мову, хутка знікла з паліц магазінаў. Прычына такой папулярнасці не толькі памайстэрску напісаныя вершы, пацешкі, загадкі, казкі, але і арыгінальнае мастацкае афармленне. Валерый Славук, нягледзячы на тое, што ў зборнік увайшлі разнажанравыя творы, здолеў знайсці агульны стрыжань, які аб'яднаў іх, дапамог зрабіць цэласную кампазіцыю, злучаную адзінствам задумы.

Той, хто трымаў кніжку ў руках, заўважыў, што тэкст і малюнкі ўзаемна дапаўняюць адзін аднаго. Акрамя таго, В. Славука не «звязвае» адна канкрэтная старонка, ён робіць малюнкам смелы пераход на наступныя. Менавіта так атрымалася з ілюстрацыяй верша «Вясёлы цягнік». «Цягнік» у кніжцы сапраўды пачаў «рухацца» (ды не адзін, а з пасажырамі) з адной старонкі — на наступную. Ды і пры аздабленні іншых твораў назіраўся гэткі смелы палёт фантазіі мастака, калі творчая ініцыятыва не скоўваецца рамкамі традыцыйнага. Цяпер і дзятва, і дарослыя зноў могуць пазнаёміцца з ілюстрацыямі В. Славука. На гэты раз дзякуючы выдавецтву «Советский художник», якое выпусціла камплект паштовак, што так і называецца «Ілюстрацыі да кнігі Рыгора Барадуліна «Кошкі ў кошыку». 16 картак (кошт іх — усяго 36 капеек, тыраж камплекта — 185 тысяч экземпляраў) — магчымасць адчуць адметнасць творчага почырку В. Славука і прачытаць на зваротным баку паштоўкі ўрывак з адпаведнага твора (шкада, што не ўказана прозвішча перакладчыка І. Бурсава, а да ўсяго, відаць, было б добра, каб гэты ўрывак прыводзіўся і ў арыгінале).

Уражанне камплект робіць самае прыемнае, хоць ілюстрацыі ў самой кніжцы больш выйгрышныя. Справа ў тым, што на рэпрадукцыях згублена адчуванне прасторы. Згадаем тыя ж ілюстрацыі да верша «Вясёлы цягнік». На паштоўцы ўсяго частка аднаго вагона, і не зірнеш тут на зваротны бок, як на наступную старонку.

У цэлым жа выданне заслугоўвае ўхвалы. Тым больш, што А. Фолманіс падрабязна аналізуе і адметнасці творчай манеры В. Славука.

А. М.

Ніна МАЕЎСКАЯ



# Як там наверсе

## Прыпавесць

Стары Фіялетавы Чарвяк з сінімі жыламі, відаць, ад натугі,— працаваў. Ён араў зямлю. Зямлі было шмат, і ён стараўся бесцушнику, пакідаючы за сабою мяккія барозны. Побач такія ж барозны, толькі вузейшыя, цягнулі яго сыны. Чарвяк задаволена пахвальваў іх і падбадзёрваў:

— Старайцеся, старайцеся! У нас самае вялікае поле, і мы павінны быць самымі спраўнымі работнікамі. Я рады, што ў мяне такія дзеці. Цяпер мы ўчатырох колькі зямлі абробім! Яна будзе самай пульхнай і ўрадлівай.

Зямлі ў іх было сапраўды шмат — цэлая града, на якой расла морква. Гэта прыгажуня была вельмі далікатная і капрызлівая, яна любіла мякка спаць, удосталь піць. І Старому Чарвяку трэба было рыхліць і рыхліць вакол яе зямлю, нібы ўзбіваць пярыну. Затое які духмяны ішоў ад яе пах, якое яркае свята. І Стары Чарвяк працаваў да ўтомы, не заўважаў, як ідзе час. Потым ледзьве прыцягваўся дахаты, пад кучомістае карэнне яблыні. Але вярнуўшыся з поля, яшчэ ўходжваўся дома: аглядаў карэньчыкі яблыні, пракопваў ім хады, накіроўваў, куды ісці, дзе вільготна і цёпла.

Стары Чарвяк быў нястомны. І цяпер, радуючыся, што ў яго такія ж працавітыя дзеці, сказаў:

— Я ўзяў яшчэ адну граду. Там жыве рэпа...

Дзеці паслухаліся яго. Пайшлі да рэпы. Рэпа аказалася не проста капрызнай барыняй, а надаедліва капрызнай. Яна ўсё пыхкала, ёй было душна і цесна, не было чым дыхаць.

— Што ж вы, што ж вы, узбівайце мякчэй пярыну. Я спаць хачу.

Яны выбіваліся з сілы, а яна ўсё стагнала: «Цесна мне, мне цесна». І трэба было працаваць і працаваць. Але малы Ружовы Чарвяк заўпарціўся:

— Я не хачу болей... Я — стаміўся,— сказаў ён.— Мы ўсё аром і аром. Я стаміўся.

Стары Чарвяк вельмі здзівіўся.

— Што ты, сынок,— сказаў ён.— Як жа можна не араць? Гэта рабілі і дзед твой, і прадзед. Усе яны жылі ў гэтай зямлі, аралі, рыхлілі яе.

— Тата, тата, гэта яго Драцянік падвучыў,— заспяшаўся падказаць бацьку Бэзавы сын.— Ён тут круціўся...

— Я забараняў табе сябраваць з ім. Ад Драцяніка добраму не навучышся. Што ён табе гаварыў?

— Нічога, ён проста смяяўся. Казаў, што мы цёмныя.

— Якія ж мы цёмныя? Я — Фіялетавы, дык я ўжо стары. А ты і твае браты — вы маладыя. Ты — Ружовы, ён—Шызы, а ён — Бэзавы. Ён сам, гэты Драцянік, не вялікі прыгажун — руды, як іржа.

— Не, не пра колер ён гаварыў. Цёмныя па-ягонаму значыць — дурныя, толькі і ведаем, што без перадыху зямлю араць. А вось яны, Драцянікі,— краўцы.

— Краўцы...— Стары Чарвяк паўтарыў гэта здзекліва.— Ведаю я, якія яны краўцы. У мінулым годзе падручыліся перашываць сарафаны цыбулінам. Дык толькі тканіну папсавалі. Іх адтуль так турнулі, што яны ледзьве не папруцянелі. А стары Драцянік і цяпер задыхаецца, як тады атруціўся. Што рабіў гэты падшыванец у нашым агародзе?— дапытваўся Стары Чарвяк.

— Казаў, што бацька яго паслаў расточваць плацейкі морквам, бо яны зацесныя сталі.

— Што ты — гэтага нельга дазволіць. Ён толькі папсуе іх, папрашывае навылёт... Кравец знайшоўся. З-за яго і нам не будзе даверу.

— Тата, не хвалюйся,— супакоіў яго Шызы сын.— Гэты Драцянік такі хвалько і гультай, што многа ён не наробіць.

— Што ты мне гаворыш! Я ведаю яго бацьку. І ўвесь іх драцяны род. Ад іх ніколі ніякай карысці не было.

Стары Фіялетавы Чарвяк задумаўся, потым пранікнёна сказаў:

— Дзеці, запомніце: нідзе так ні добра, нідзе так ні ўтульна, як у зямлі. І няма работы больш пачэснай і карыснай, як араць зямлю. За гэта нас паважаюць і любяць. І мы павінны плаціць добрасумленнасцю.

— Хто нас любіць?— спытаў адзін з братоў.

— Нас любіць Чалавек. Ён жыве там, наверсе.

— Чаравек, Чаравек...— паўтарыў малы.— Завецца якраз, як мы. Ён, відаць, нам радня?

— Чалавек таксама арэ зямлю. А мы яму дапамагаем. Чалавек харошы, ён выратаваў мяне ад бяды. І я пакляўся, што буду ўсё жыццё яму служыць і дзяцей сваіх вучыць гэтаму. Так што — слухайцеся мяне, дзеці: вы павінны старацца.

— Значыць, мы ўсё жыццё будзем араць і ніколі не ўбачым, што там, наверсе?

— Чаму ж не? Скора скончыцца ворыва. Пойдзе дождж. І мы выйдзем, каб памыцца пад яго цёплымі струменямі. Мы ж не простыя чарвякі, а — дажджавыя. Калі пачынаюцца дажджы, мы заўсёды выходзім. Памыемся, тады ўсе ўбачаць, якія мы прыгожыя: ты — Шызы, ты — Ружовы, а ты — Бэзавы.

— А ты?

— Я — Фіялетавы. І нас пабачыць Чалавек.

Сыны супакоіліся. Паслухалі бацьку і яшчэ спрытней пачалі араць, каб паспець управіцца да дажджоў.

Ружовы чарвяк таксама працаваў. І ўсё думаў: як там, наверсе, які ён, Чалавек?

— Усё арэш?— пачуў ён раптам знаёмы бесклапотны голас. Гэта, канечне ж, быў Драцянік.— А я — гуляю.

Ён пакручваўся, дрыгаўся, прытанцоўваў, выдаючы свой вясёлы настрой.

— Чаму ты гуляеш?— папытаў Ружовы.

— А-а, у нас так, пад'еў і — гуляй. Згаладаешся — трохі папрацуй, зарабі на хлеб. Гэта вы, Чарвякі, скваппыя, здаецца, усю зямлю гатовы пераесці.І бацька мой гэтак пра вас гаворыць... Ды супыніся ты, адпачні... Уф, стаміўся і я,— сказаў Драцянік,— усё тут аббег, усюды пабыў.

Хоць і забараніў Ружоваму бацька размаўляць з Драцянікам, але ён прыпыніўся толькі на хвілінку, запытаць штокольвечы, прылёг побач.

— Скажы, Дрот, ты калі-небудзь бачыў Чалавека?

Драцянік уздрыгнуў ад нечаканасці.

— Чалавека?— перапытаў ён.— Мы яго сто гадоў бачыць не жадаем. (Ён сказаў мы, што азначала: усе Драцянікі). Ціш-ш-ш,— штурхануў Ружовага Чарвяка,— чуеш... Гух... гух... гух... Гэта ён, ідзе. Гухае сваімі ботамі. Толькі пападзіся яму пад ногі—раздушыць. Я адноўчы выскачыў на разору, а ён мяне ботам прыціснуў і яшчэ нагою — круцькруць. Але я — ні быў бы Драцянік — вёрткі, у зямлю мігам зашыўся. А цябе б толькі хрась — і мокрае месца. Мы, Драцянікі,— жывучыя. Ён хацеў адной чы нас атруціць. Ледзьве выжылі — бацька мой і цяпер задыхаецца...

Драцянік зноў нагнаў на сябе бесклапотны выгляд.

— Мы, Драцянікі,ў вадзе не тонем і ў агні не гарым. А ты глядзі — не трапляй яму пад падэшву,— раіў ён.

— Мой бацька казаў: Чалавек — добры,— недаверліва праплямкаў Ружовы.

— Твой бацька... ён ведае? Ён толькі і знае, што араць.

Пачуўся сухі шорхат. Драцянік зразумеў, што гэта нетаропка і стомлена ідзе Стары Чарвяк.

— Ну, я пайшоў,— сказаў борздзенька.— Хочаш, калі-небудзь вазьму цябе з сабою наверх? Хоць зірнеш на жыццё.

— Добра, прыходзь заўтра. Пойдзем. Калі тата дазволіць...— Паабяцаў, а сам занепакоіўся. «А як жа, калі патрапіць на іх Чалавек? Драцяніку што, ён — вёрткі, а я... прыкінуся мёртвым»,— рашыў ён. Але думка пра Чалавека, страх перад ім не пакідалі Ружовага Чарвяка.

— Тата, тата,— сказаў ён, калі бацька быў ужо зусім блізка.— А Драцянік...

— Ты зноў водзішся з гэтым гультаём?

— Тат, ён расказваў мне пра Чалавека. Сказаў, што ён дрэнны, што ён страшны...

— Я табе казаў, менш слухай яго.

— Я і не слухаў. Я сказаў, што тата кажа: Чалавек добры. А ён — не верыць. Тата, раскажы мне пра Чалавека. Як ён выратаваў цябе?

— Слухай... Калі пачынаюцца дажджы, мы, дажджавыя чарвякі, выходзім наверх. І ў той раз мы выйшлі, думалі паляжым пад цёплым дажджом. Але струмень падхапіў мяне і панёс, нават не было за што ўхапіцца. Думаў, канцы — захлынуся, патану. Але скора адчуў нешта цвёрдае пад сабою. Абрадаваўся, зараз крышку перадыхну — і назад, у зямлю палезу — дзе там, асфальт не прагрызеш... А нада мною ўжо вароны кружаць. Ухопяць — канец маёй галоўцы. Але ішоў ён, Чалавек. Узяў мяне ў два пальцы, як у дзюбу, і кінуў на граду. Толькі сказаў: жыві, Чарвяк, ары зямлю. Вось з тае пары я і стараюся.

Стары Чарвяк змоўк, задумаўся.

— Тата, а ты мне дазволіш хоць разок выйсці наверх, зірнуць на Чалавека.

Гэтага Стары Чарвяк не мог забараніць. Ён і сам хацеў бы на яго зірнуць.

— Але гэта небяспечна,— сказаў ён.— Ты яшчэ малы і неразумны.

— А я з Драцянікам.

— Няхай сходзіць, няхай...— прасілі за яго і браты, што ціхенька слухалі іх гаворку.— І нам раскажа. Ён жа з Драцянікам.

— Ды з гэтым не прападзеш. Толькі лепей бы пачакаць дажджоў.

Але Ружовы не стаў іх чакаць. Як толькі сустрэў Драцяніка, так яны і пайшлі. Драцянік шустры і вёрткі, з ім не так проста сысціся. Але Ружовы Чарвяк не адставаў, хоць і засопся, але ішоў.

— Дзе ты там? Хутчэй! Я ўжо наверсе,— крычаў яму Драцянік.

І вось Ружовы Чарвяк адчуў, як яму стала лёгка, ён перастаў адчуваць нават сваё цела. Толькі хапаў ротам паветра, каўтаў, каўтаў яго, а прасоўвацца не мог. Закруціўся адно на месцы.

— Глядзі, як тут прыгожа,— крыкнуў яму Драцянік.— Вунь хтосьці сядзіць на нечым: сам у зямлі — а галава наверсе.

— Гэй, каторы сядзіць, хто ты?

— Я, Матылёк-капуснік.

— А сядзіш на чым?

— Вядома ж, на капусце. Мы, Капуснікі, толькі і сядзім на капусце.

— Глянь,— тут многа такіх, што толькі галава наверсе,— сказаў Драцянік.— Вунь жоўтая галава ляжыць.

— Гэй, Капуснік,— крыкнуў Драцянік,— хто вунь той жоўтагаловы?

— Гэта Гарбуз.

— Гарбуз,— весела паўтарыў Драцянік.

— А дзе ж Чалавек?— ціха папытаў Чарвяк.— Як мы яго пазнаем?

— У гэтых толькі галава наверсе, а самі яны, відаць, у зямлі. А Чалавек — увесь наверсе.

— А-а-а,— працягнуў Ружовы Чарвяк, відаць, яму было зразумела.— Толькі я не бачу і тых, у каго толькі галава тут.

— А ты глядзі...— разззлаваўся Драцянік.

Ружовы Чарвяк хацеў глянуць, але нешта бліснула і асляпіла яго. Толькі адчуў, як нешта запырхала над імі. Гэта лятаў Капуснік.

— Хто тут пытаўся, крычаў хто? — выглядваў ён.— А сам ты хто?

— Я — Драцянік, а са мною Чарвяк.

— А што робіце?

— Ён арэ зямлю, а я — кравец,— весела і бесклапотна сказаў Драцянік.— А ты што робіш?

— Я? Я — лётаю, лётаю, пырхаю, пакуль не стамлюся, а потым — саджуся на капусту. Ну, я паляцеў, вунь мае сябрукі ўжо «ў вярхі» гуляюць.

— Вось бы нам так, га-а, Чарвяк,— мройліва сказаў Драцянік.—Гэта жыццё!

— Між іншым, ён быў звычайным вусенем, як я. Скора і я палячу,— сказаў нехта побач.

— Ты,— здзівіўся Драцянік,— ты ж чарвяк, толькі зялёны.

— Ну і што ж, а пабуду на сонцы і — ператварусся ў матылька...

— Глядзі, як тут цікава, Ружовы. Давай пабудзем даўжэй, можа, і мы ператворымся ў тых, што ўмеюць лятаць.

— Не, я не магу, асабліва на сонцы. Мне душна, я болей не магу. У роце перасохла.

— Давай пасунемся ў цень. Вунь той парасон.

— Я не магу паварушыцца. Я ўвесь высах, скура спяклася, баліць. Дрот, ратуй мяне. Памажы схавацца.

— Пачакай, вунь мой знаёмы здаравяка. Я яго паклічу. Эй, ты, зямляк, Мураш, памажы мне яго аттарабаніць у цень. Саўсім тут, у вас, ён сасмажыўся.

Мураш кінуў бервяно, якое нёс дадому, і ўчапіўся сваімі чорнымі абцужкамі ў Ружовага Чарвяка. Але таму балюча стала. І ён закрычаў:

— Ратуй мяне, Дрот.

Мураш напінаўся, цягнуў, а Драцянік круціўся, падважваў Чарвяка, але марна.

— Дурныя мы,— засмяяўся Мураш,— трэба проста накрыць яго лістом — вось і будзе цень. Я набягу да Жука-пільшчыка, ён спілуе ліст, а мы з братам яго прыцягнем,— і ён пабег.

Тут нешта гупнула, сціснула. Знячэўку Чарвяк падумаў, што наступіў на яго Чалавек, але — не, нехта проста засыпаў яго зямлёй, вільготнай і прахалоднай. Ён з палёгкай уздыхнуў. Адляжаўся, ачомаўся і для большай бяспекі залез у зямлю глыбей. Пачуў: недзе блізка енчыць Драцянік.

— Дрот,—паклікаў ён.—Што з табою?

— Што? Што? Ён хацеў зарэзаць мяне, але толькі хвост адхапіў.

Сапраўды, Драцянік зрабіўся меншы.

— Добра, што не галаву,— паспачуваў Чарвяк.— Дык хто цябе?

— Хто, хто? Яшчэ пытаешся. Чалавек! Табе добра, ён цябе зямлёю прысыпаў, а мяне... Але нічога, мы, Драцянікі, жывучыя,— стараючыся быць вясёлым, сказаў ён.— Вось прыйду дадому, скажу сваім, яны — адпомсцяць. Пойдуць на яго грады і ўсё чыста здратуюць,— і памаўчаўшы, уявіўшы, мусіць, гэта, дадаў: — А ты гаварыў: Чалавек добры.

— Ён бацьку майго ўратаваў і мяне толькі што... — нясмела абараняў Чалавека Чарвяк.

— Гэта ўсё выпадкова. Хіба я цябе не ратаваў? А ўвогуле, пайшоў ты з ім разам...

Драцянік засердаваў і падаўся дадому адзін.

Ружоваму Чарвяку стала сумна. Ён адчуваў сябе вінаватым перад Драцянікам. І падарожжа, якое для яго паспяхова скончылася, не здалося небяспечным і цяжкім. Тым больш, што ён ведаў ад Драцяніка, што на зямлі не заўсёды так спякотна, бывае і прахалодна, і вільготна, саўсім, як у зямлі.

Ружовы Чарвяк вярнуўся дадому і сказаў братам Шызаму і Бэзаваму:

— Там усё інакш. Нават чарвяк можа ператварыцца ў матылька. І нічога не рабіць, толькі лятаць,— летуценна заключыў ён.

Браты засмуціліся. Сталі дакараць бацьку, што той трымае іх тут, дзе толькі і ведаеш, што араць. Яны нават адмовіліся працаваць і цэлы дзень ляжалі ў цяпле пад кучай гною, згаворваліся пайсці наверх, нават калі бацька і забароніць.

— Мы ўжо дарослыя,— сказаў Шызы,— і ён нам не ўказ. Тут толькі і ведай, што дзень у дзень упінайся.

— Пачакайце крышку,— сказаў, падышоўшы, бацька.— Зараз пойдзем усе. Баляць, ныюць мае жылы: мусіць, пойдуць дажджы. А можа, там, наверсе, яны ўжо ідуць.

І дажджы лінулі. Чарвякі адразу гэта адчулі. Зямля стала волкай, вязкай, як глей, і халаднаватай. Ніякай работы, яна цяпер — упустую. І Стары Чарвяк сказаў:

— Дзеці, хадземце наверх. Толькі прашу вас, трымайцеся зямлі. На асфальце — нам пагібель.

Яны выйшлі пад парасон лопуху, што ўкрываў кавалачак зямлі. Спыніліся, прыслухаліся. Зверху нешта дробна пастуквала. Чарвякі затаіліся, прыціхлі.

— Гэта дождж, наш дождж,— сказаў ім Стары Чарвяк.— Не бойцеся выходзьце.

І сыны падаліся за ім. Дождж хвастаў, шлакатаў ім спіны. Малыя, Шызы і Бэзавы, ажно падскоквалі і смяяліся. Потым, калі дождж крыху аціх і яны ляжалі на краі лужы, Бэзавы сказаў:

— Мне так лёгка, здаецца, паляцеў бы. Можа, я ператвараюся ў матылька?

— Добра б,— летуценна прамовіў Шызы.

Рэзкі парыў ветру пранёсся зверху, яны ледзь утрымаліся за зямлю.

Зноў шугануў дождж, ды такі спорны, паветра напоўнілася суцэльным шумам, чарвякі нават не расталі чуць адзін аднаго. Вада ішла патокам. Ён змываў усё перад сабою. Чарвякоў падхапіла і панесла.

— Браткі,— крычаў Бэзавы,— я лячу-у!

— Нас зносіць,— удакладніў Ружовы.

— Мы ж захлынёмся,— енчыў Шызы.

— Чапляйцеся за зямлю,— наўздагон ім крычаў бацька, але голас яго ны патанаў у шуме дажджу. Чарвякоў несла вада, усё далей і далей. Нарэшце Ружовы адчуў пад сабою нешта цвёрдае.

— Зямля, зямля!— закрычаў ён.— Спыняйцеся!

І Чарвякі — Шызы і Бэзавы — пачалі хапацца за ўсё, што траплялася на шляху, пакуль не адчулі цвёрдую глебу.

Шызы ўсё яшчэ енчыў:

— Я саўсім выбіўся з сілы, мне млосна. Я галодны. Давайце вяртацца дадому.

— Пачакай, дай аддыхацца,— папрасіў яго Бэзавы.— Ды пакліч Ружовага. Ці тут ён? І бацьку трэба адшукаць.

Нарэшце яны сабраліся ўсе.

— Бяда,— сказаў ледзь жывы бацька, — некалі Фіялетавы Чарвяк, а цяпер, белы, як усе дажджавыя чэрві, і немачны,— пад намі асфальт. Гэта — бяда...

Нешта чорнае, што ажно закрывала над імі неба, закрычала так моцна, нібы рвалася паветра.

— Вароны, вароны,— занепакоіліся чэрві, што былі побач на асфальце.— Яны зжаруць нас.

Але вароны не зачапілі чарвякоў, мусіць, іх адпужнула нешта. На круглых, вялізных колах яно кацілася па асфальце, абдаючы ўсіх, хто не трапіў пад яго, смурода.

— Гэта машына,— сказаў Стары Чарвяк.— Некалі колы абмінулі мяне, а цяпер — гэта лёс.

— Хто ж уратуе нас? Хто... — заляматаваў Шызы. Браты таксама былі ў трывозе, але маўчалі.

— Спадзяванне толькі на Чалавека,— адказаў яму бацька. — Калі гэта здарыцца, ён уратуе вас, служыце яму...— гэта гучала як запавет.

Колы няўмольна накочваліся, і апошнія словы яны не пачулі. Калі ж ачомаліся, бацькі не было. Відаць, яго панеслі за сабою колы машыны.

Чарвякі пабедавалі, і старэйшы з іх, Ружовы, сказаў:

— Не трэба губляць час, разлежвацца тут, пойдзем пацíху шукаць зямлю. Трэба толькі ісці ў адным напрамку, далей адсюль.

Ішлі яны марудна, траплялі ў лужы, абдзіралі сабе скуру. І невядома, ці перайшлі б асфальтавую пустку, але...

— Зірніце, колькі дажджавых чарвей,— пачулі звонкі голас,— яны ж загінуць. Давайце пакідаем іх на газон. Яны ж карысныя. Няхай рыхляць зямлю пад кветкамі.

Чэрві — Ружовы, Шызы і Бэзавы — ачомаліся на зямлі.

— Мне здалося, ці напраўду — я ляцеў,— сказаў радасна Бэзавы.

— А хто гэта быў? — запытаў Шызы.— Хто нас сюды перакінуў?

— Гэта — чалавечыя дзеці,— сказаў Ружовы, як найбольш спрактыкаваны.

Так і жывуць у зямлі на газоне дажджавыя чэрві. Бэзавы, Шызы і Ружовы. Яны ўжо сталі старыя, фіялетавыя з сінімі жыламі, як некалі іх бацька. Яны старанна працуюць, абрабляюць газон, маленькі астравок зямлі сярод асфальтавай пусткі. І вучаць сваіх дзяцей, як некалі вучыў іх бацька, што карыснейшай і лепшай працы, чым араць зямлю,— няма. І мараць вярнуцца на былыя бацькоўскія гоні. Чакаюць вялікіх дажджоў. Але дзеці пазіраюць скептычна і ўсё пытаюцца ў бацькоў: як там наверсе?

**З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ**

# ГАВАРУ Я МАТЧЫНАЙ ПЕСНЯЙ...

**Ганна КАШУБА**

## ЗНЯВЕЧАНАЯ ПРАЎДА...

Знявечаная праўда,
не ўмірай,
Інакш, і мы
усе памрэм адразу.
У душах
разгараецца адчай,
Ды не знайсці пакуль
нідзе адказу.

Знявечаная праўда,
не ўмірай!
Табе адной,
табе адной пад сілу
Сабою асвяціць
наш родны край
І нават смерць
змагчы сваю асіліць.

Перад табой
у многіх цяжкі грэх
Ляжыць на душах
чэрствых і убогіх.
Знявечаная праўда —
не памрэ,
Бо ёсць каму
падняць яе на ногі.

г. Мінск.

**Ніна ГАРАГЛЯД**

## РОДНАЯ МОВА

Вызваляюць нібы ад кары
Сваіх дзетак ад роднай мовы.
Хай, маўляў, дурніцаю рознай
Не засмечваюць тыя галовы.

Толькі мова мая не смецце.
Мне ў спадчыну даў яе род...
Гавару я матчынай песняй.
Хто пасмее закрыць мне рот!!

## ПАДКІДЫШ

Слова, як стрэл: «Адмаўляюся».
Шчыльна захінуты грудзі.
Што ж ты, малыш, надрываешся!
Бачыш, звярэюць людзі.

Кінуты. Ты не пакінуты.
На чужым ложку — мулка.
Стане дзіцячы дом
Тваім адзіным прытулкам.

Вышыеш нумар казённы
На паліто, на панаме...
Казку, насуперак праўдзе,
Зложыш аб добрай маме.

г. Камянец.

**Антаніна ЦІХАНЧУК**

●

На зялёненькім абрусе
Першамайскай Беларусі,
Па сцягах і транспарантах,
Па галовах дэманстрантаў,
Па бумажных кветачках
У руках у дзетачак,
Па сярпах і молатах,
Аблепленых золатам;
Па цудоўных тварыках
У дзіўных акулярыках
На трыбунах новых
У знак перабудовы
Вецярок чарнобыльскі
Церушыў хваробачкі...

Трыбуны ўсміхаліся,
Кветачкі махаліся,
Шарыкі скакалі,
Ідэю праслаўлялі
Братэрства пралетарскага,
Існавання райскага.

г. Крычаў.

**Серафіма БЕСТАВА**

## ПАКІНУТАЯ ВЁСКА

Цяжка сэрцу ў гэта паверыць:
Тут вясёлым песням не днець;
І не скрыпнуць прыветліва дзверы,
І у вокны ніхто не зірне.

Анямелі бязлюдна хаты
На атрутнай гэтай зямлі.
Чым жа грэшныя, чым вінаватыя
Людзі тыя, што тут жылі!

г. Орша.

**Вера БУЛАНДА**

## ТРЫЯЛЕТ

Па тэлефоне Вам званіла...
Ці Вы былі ў далёкім свеце!
Што я, відаць, было ў сакрэце,
Па тэлефоне Вам званіла,
Хацела папрасіць: «Сагрэйце,
Без Вас жыццё зусім нямілае».
Па тэлефоне Вам званіла...
Ці Вы былі ў далёкім свеце!

Лепельскі раён,
вёска Стаі.

**Галіна ТВАРАНОВІЧ**

●

Уначы і ўдзень,
узімку і ўвосень —
заўжды.
На ільняным палетку
вышыванага мамай абруса
зіхацяць васількі.
Сціплыя — нябесныя —
кветкі Айчыны маёй.

●

Напятую струну твайго чакання
Шапэнаўскі накцюрн аблашчыць
сутонне залаціцтаю тугой...
І далягляд пасунецца углыб
змарнелае, застыглае душы...

г. Мінск.



Фота А. ШАБЛЮКА.

# РАНАВАТА СКЛАДВАЦЬ КРЫЛЫ...

## Колькі слоў пра Інесу Адзінцову з нагоды жаночага свята



Лёс шчодры: даў ёй дар высокага ўзлёту. Лёс жорсткі: зрабіў яе птушкай са спавітымі крыламі. Лёс літасцівы: дорыць ёй хвіліны разняволення, і тады пачуццё палёту ахоплівае і тых, хто побач, хто чуе яе голас. (Вядома ж, не кожнага: бяскрылыя душы спачываюць у сваіх вымярэннях).

Магчыма, той самы лёс наканаваў, каб менавіта сёння ўспомнілася мне гэтая артыстка, і нешматлікія ўражанні ды згадкі пачалі афармляцца ў словы, а словы класціся на паперу... Дапускаю: хто асабіста, даўно і добра ведае Інесу Адзінцову, можа і не ўбачыць нічога агульнага паміж яе лёсам у мастацтве і маімі сціплымі суб'ектыўнымі меркаваннямі. Ды што б там ні было — я ўспамінаю і пішу. І ніяк не магу пазбавіцца адчування, што ў яе оперных гераінях ёсць нешта ад лёсу той дзіўнай птушкі, вольнаму ўзлёту якой замінаюць ці то нябачныя ланцугі на крылах, ці то пруткі «залатой клеткі», ці то норавы асяроддзя «бяскрылых».

«Дон Карлас». Прэм'ера адбылася на беларускай сцэне з дзесятак гадоў таму. А ў мяне дасюль адно з першых яркіх уражанняў — вобраз прынцэсы Эбалі, створаны Адзінцовай. Стромкая, пластычная, эфектная пастава. Прыгожы экзатычны голас, у якім — пакуты душы, трагічная апантанасць страсцю адрынутага кахання, спачатку прыхаванага пад маскай бязвіннай весялосці, за ўпэўненасцю фаварыткі караля, а потым спапялёнага ў д'ябальскім агні рэўнасці і помсты.

З таго часу я не бачыла Адзінцову ў прэм'ерных пастаноўках на першых ролях...

Тэатр ёсць тэатр, і каб не выклікаць «стыхійнае бедства», хай сабе і ў шклянцы вады, лепей не задаваць пытанняў, накшталт: «Чаму артыст А., які мае, так бы мовіць, сур'ёзныя вакальныя праблемы і не надта выразны сцэнічна, атрымлівае і галоўныя партыі, і ганаровыя званні, і высокі аклад, а ў яго-нага калегі Б., які відавочна не ў горшай пеўчай форме ды і артыстычна больш адораны, да таго ж не лайдак — працуе заўзята, толькі дай разгарнуцца,— чаму ў яго ўсё наадварот?»

Зрэшты, у каго пытацца, напрыклад, пра тое, чаму менавіта не спешчаную родным тэатрам Інесу Адзінцову двойчы запрашалі ў Маскву, у Вялікі, «ратаваць» партыю Сантуцы ў «Сельскім гонары» (спатрэбілася тэрміновая замена А. Абразцовай і Т. Мілашкінай, абедзве славутыя выканаўцы хварэлі)? Чаму менавіта ёй, мінчанцы, прапанавалі цэнтральную партыю ў прэм'ерным спектаклі «Русалка», якім адкрываў гастролі ў Тамбове Варонежскі оперны?

Чаму І. Адзінцова — адна з нямногіх беларускіх оперных салістаў, хто рэгулярна выступае са складанымі і густоўна падабранымі філарманічнымі праграмамі? Рамансы, песні, арыі Глінкі, Чайкоўскага, Бетховена, Брамса, Р. Штрауса, Равеля, Грыга... Сцэны, арыі з опер Меербера, Расіні, Р. Вагнера, Беліні, Панкіелі... На канцэртнай сцэне жывуць яе Разіна і Манон, Дэздэмона і Лэдзі Макбет, Лукрэцыя, Мімі, Кармэн...

Чаму, рэцэнзуючы яе вакальныя вечары, крытыкі пішуць пра голас — «прыгожае лірыка-драматычнае сапрана, мяккі насычаны тэмбр, шырокі дыяпазон і роўныя рэгістры», пра «майстэрскае валоданне галасам, плаўнасць і роўнасць вакальных ліній і тэхнічны патэнцыял», пра «здольнасць спявачкі правільна адчуць і ўвасобіць характар, настрой і стыль выконваемай ёю музыкі»? І чаму дадаюць часам: «Уражанне такое, што ніхто не хоча заўважаць дасягненняў і набыткаў Адзінцовай. Яна амаль нічога не пяе ў тэатры.. Калі калегі не заўважаюць адоранага чалавека, гэта не робіць ім гонару»?

Можа, прэса ў рэшце рэшт паўплывала — баюся сурочыць, бо з месяц таму высветлілася, што І. Адзінцовай «далі» ў тэатры яшчэ пару спектакляў. Я пайшла паслухаць яе ў «Вяселлі Фігара». Дырыжыраваў госць з Літвы І. Домаркас. Партыю Фігара спяваў сталы, спрактыкаваны Ю. Бастрыкаў. А В Скарабагатава, якога помню непаўторным Фігара ў абедзвюх операх пра знакамітага цырульніка з Севіллі — Расіні і Моцарта — упершыню пабачыла ў абліччы памаўзлівага графа Альмавівы. Па ходу дзеі цэнтр увагі перамяшчаўся, як вядома, то на ўвішную і какетлівую Сюзанну Т. Кучынскай, то на кранальнага і смешнага Керубіна Н. Казловай... Увогуле ў той вечар, калі не лічыць некалькіх накладак, спектакль радаваў жывым ансамблем, адметнай фарбай якога была і графіня І. Адзінцовай.

Плаўныя рухі, тонкія манеры, глыбокі прыгожы голас, далікатная інтанацыя... Спачатку ў гэтай «птушцы з залатой клеткі» нішто не выдае тую дасціпную свавольніцу Разіну, якая некалі паланіла маладога Альмавіву. Увага пажа Керубіна цешыць самалюбства графіні, ды не адцягвае ад горкай здагадкі пра новую любоўную інтрыжку мужа. Артыстычна і з акварэльным гумарам актрыса малюе сваю рахманую гераіню, у голасе якой прачынаюцца ноткі ўпартасці, няўрымслівага характару, і яна з грацыёзным азартам уключаецца ў контргульню супраць выкрутасаў Альмавівы. Граф — у партнёрстве І. Адзінцовай і В. Скарабагатава гэта абыгралася зусім пераканальна — аказваецца пераможаным і зноў прычараваным яе абаяльнай жаноцкасцю, гарэзлівым розумам.

(А ў праграмцы, між іншым, прозвішча лаўрэата ўсесаюзнага конкурсу Адзінцовай было дапісана алоўкам. Такое найчасцей здараецца з выканаўцамі-пачаткоўцамі або салістамі, якія прыязджаюць працаваць у тэатр з чужых краёў і атрымліваюць ролю ва ўжо гатовай пастаноўцы. Іронія лёсу: калі Адзінцова «ратавала» спектакль у Маскве, абодва разы друкаваліся праграмкі з канкрэтнай датай паказу, з адзіным складам выканаўцаў... Але гэта ўжо завядзёнка ўсемагутнага Вялікага тэатра).

Шкада, пакуль не давялося мне патрапіць на спектакль «Яўгеній Анегін» з яе ўдзелам: музыканты кажуць, што вобраз Таццяны — удача артысткі. А яшчэ расказваюць, што Адзінцова нядаўна бліскуча «здала», паказала калегам, спецыялістам, крытыкам партыю Кармэн. Яна гатова ўвайсці і ў гэтую оперу — са сваім духоўным вопытам, творчым густам, інтуіцыяй. Спрабую ўявіць сабе новую гераіню: жывую, рухавую, лёгкую, як сама музыка, яркую і неўтаймоўную, як птушка яе кахання.

Уяўленні ўяўленнямі, але вось каб хоць раз пабачыць наяве, у спектаклі! Спадзяюся, гэтак і будзе, бо з імёнамі пастаноўшчыкаў «Кармэн» звязваюць смеласць і паглыбленасць пошукаў, імкненне пераглядаць знойдзенае, удасканальваць зробленае. А ў такім разе хіба могуць яны не даць шанц артыстцы, якой проста рана складваць крылы?

«Ведаю я цану кампліментам, якімі абменьваецеся вы між сабою, жанчыны!..» — часцяком іранізуе мой старэйшы калега. Дазволю сабе сёння зусім сур'ёзнае дапаўненне: «...А таму сапраўды бясцэнныя нашы кампліменты, калі яны — ад шчырага сэрца».

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

**НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ**

# АПОШНІЯ?

Некалькі гадоў назад сядзіба пабудовы мінулага веку па вуліцы Казінца ў Мінску, рамантычна названая «Белай дачай», стала Цэнтрам фальклору, базавай установай народнай творчасці Рэспубліканскага навукова - метадычнага цэнтра культуры. Сюды пачалі прыязджаць фальклорныя калектывы з розных рэгіёнаў Беларусі, тут наладжаны пастаянны фестываль-агляд мастацкай самадзейнай і народнай творчасці «Матчына песня», а нядаўна Цэнтр Беларускага фальклору адчыніў дзверы і для тых, хто хоча навучыцца нацыянальным рамёствам, — створана некалькі студый па пляценні з саломкі, аплікацыі саломкай, ткацтве паясоў і інш.

Адметнай падзеяй стала выстава народных майстроў. Ганчарныя вырабы, разьба па дрэве, саломапляценне выклікалі захапленне ў наведвальнікаў. Глыбокі сэнс у самім дэвізе, пад якім стваралася гэта выстава, — «Апошнія?» Сапраўды, ці не «апошнія з магікан» — майстра па кераміцы Васіль Семянкоў з Гарадка, Уладзімір Кумко з Гродна, які захапляецца разьбой па дрэве, альбо ганчар з Пружан Іван Лісоўскі, лепельскі мастак Васіль Жарнасек, разчык па дрэве з Гомеля Аляксандр Рабцаў, знакамітая ткачыха з Гарадка Ніна Каролька і вядомы ганчар з Поразава Эмілія Шэпік...

Сапраўды, непапраўнай стратай было б, калі б яны аказаліся апошнімі. Як не дапусціць, каб такое здарылася, што зрабіць, каб старэйшыя майстры, носьбіты нашых традыцый атрымалі заслужаную павагу, належныя ўмовы для жыцця і працы?

Між тым, становішча, якое склалася ў рэспубліцы з такімі рамёствамі, як разьба па дрэве, ткацтва, саломапляценне, ганчарства, роспіс па тканіне, не можа не выклікаць трывогі. Таксама як і лёс майстроў старэйшага пакалення.



На рабочай нарадзе, да якой і была прымеркавана выстава «Апошнія?», сабраліся навукоўцы, прадстаўнікі фонду культуры, творчых саюзаў, навукова-метадычных службаў культуры, народныя майстры. Была ўнесена прапанова: «Давайце лічыць нашу нараду ўстаноўчай канферэнцыяй, каб, нарэшце, усё ж аб'яднаць нейкім чынам народных майстроў». Прагаласавалі. І хоць прысутных набралася якіхсьці два дзесяткі, у тым ліку некалькі саміх майстроў, стварылі Таварыства майстроў народнай творчасці Беларусі. Выбралі старшыню —кандыдата мастацтвазнаўства Яўгена Міхайлавіча Сахуту, абралі праўленне. Заснавальнікам таварыства сталі Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр культуры, Рэспубліканская дырэкцыя нацыянальных мастацкіх праграм, Саюз мастакоў, Беларускі фонд культуры.



Праблем у народных майстроў шмат. Гэта і нявырашаныя да сённяшняга дня пытанні забеспячэння іх сыравінай, прыладамі, матэрыяламі. Гэта і адсутнасць памяшканняў для работы і захавання экспанатаў. Патрэбны належныя ўмовы, майстэрні для навучання моладзі, каб расціць змену. Майстрам не хапае дзяржаўнай абароны. Вырашэнне гэтых пытанняў пад сілу створанаму таварыству толькі пры ўмове, калі з'яўленне яго не стане чарговай папяровай акцыяй.

**Б. ПЕРНІКАЎ.**

Уладзімір КАЗБЯРУК

# ПАМІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ,

## або Крок наперад, два крокі назад

**Леташні год аказаўся асабліва ўрадлівым на розная роду публікацыі, прысвечаныя Беларускай Народнай Рэспубліцы. Усе яны палемічныя, усе яны пафасныя. Толькі што адны аўтары бачаць у БНР рэальнае здзяйсненне мары беларускага народа аб дзяржаўнасці і незалежнасці, а іх апаненты лічаць яе нацыяналістычнай, контррэвалюцыйнай, антысавецкай, антынароднай, буржуазнай, шкоднай, рэакцыйнай — словам, не шкадуюць ёй такіх эпітэтаў, каб адна гэтая назва больш палохала людзей, чым калектывізацыя, Салаўкі і Курапаты, разам узятыя.**

### I

Сапраўдная беларуская дзяржаўнасць, — сцвярджаюць партыйныя гісторыкі, — была падаравана 1 студзеня 1919 года. Толькі той дзень паклаў пачатак усім нашым поспехам і здзяйсненням, толькі ён вывеў наш народ на шырокі гасцінец нястрымнага, трыумфальнага шэсця да святлянай будучыні, да найрэальнейшага з рэальных сацыялізмаў. З той датай звязана наша слова, наша шчасце, наш рэспубліканскі і дзяржаўны быт. Толькі Кастрычнік, толькі бальшавізм пачалі нашу сапраўдную гісторыю. А што гісторыя беларускага народа на працягу цэлых дзесяцігоддзяў тварылася пад сцягам ваеннага камунізму—пра гэта сціпла маўчалася. Прытым пакуль што яшчэ ніхто толкам не разабраўся, калі той ваенны камунізм быў больш бесчалавечным і жорсткім — у перыяд грамадзянскай вайны (там усё ж такі была надзея на нейкі канец, на мір), ці ў эпоху калектывізацыі і сталінскай перманентнай вайны супраць ухілаў, блокаў, палітычных, гаспадарчых, ваенных кадраў, навуковай і творчай інтэлігенцыі, супраць трацкісцкіх, зіноўеўскіх, бухарынскіх, меншавіцкіх, эсэраўскіх ворагаў народа, польскіх, нямецкіх, японскіх і іншых шпіёнаў?

А калі паглядзець на падзеі 1918—1920 гадоў рэальна? Будзем шчырымі: якую незалежнасць набыла Беларусь 25 сакавіка 1918 года? Быў створаны ўрад, але ці меў ён уладу? Ці меў адміністрацыю, армію, органы аховы парадку? Ці быў ён незалежны ад ваенных і цывільных улад чарговых акупантаў? Як гаварыў у адным са сваіх выступленняў Алесь Гарун, нямецкі шуцман у любы момант можа з'явіцца і разагнаць той высокі сход, які ўсё ж такі выступаў ад імя краіны і народа. З гэтай незалежнасцю не лічыліся ні нямецкія, ні польскія, ні бальшавіцкія ўлады і адміністрацыі. А яны чаргаваліся на нашай зямлі ў залежнасці ад ваеннай сітуацыі, на якую беларускія дзеячы не маглі аказваць ніякага ўплыву. Як і не мелі права голасу ні ў Брэсце, ні ў Версалі, ні ў Рызе. Чым гэта кончылася — мы ведаем.

І тым не менш кіруючыя органы Беларускай Народнай Рэспублікі ўпершыню на ўвесь свет заявілі аб праве беларусаў на самастойнае, незалежнае жыццё, на кіраванне сваімі справамі. Становішча БНР было безнадзейным. Але яе стваральнікі і кіраўнікі ні перад кім не скарыліся, нікому не прыслужвалі.

Вядома, яны гатовы былі супрацоўнічаць з любым урадам, з любой дзяржавай, якая прызнала б нацыянальныя правы беларускага народа. І ў першую чаргу яны хацелі бачыць сваю будучыню ў раўнапраўным супрацоўніцтве з рускім народам. Ды яшчэ і пры сацыялістычным ладзе.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі прадстаўнікі беларускіх арганізацый абвясцілі аб прызнанні яе вынікаў і гатоўнасці супрацоўнічаць у справе стварэння дэмакратычных мясцовых органаў улады, развіцця нацыянальнай культуры, ажыццяўлення рэальнага народаўладдзя на нашай зямлі. Засведчыў гэта не хто іншы, як Вільгельм Кнорын, які яшчэ ў 1919 годзе пісаў: «Октябрьская революция с происшедшей децентрализацией власти и тою неуверенностью, которая в белорусском вопросе существовала в среде работников Минского Совета и Исп(олнительного) Комитета Западной области, почти что незнакомых с ним, подняли надежды гг. воронко, мамоньки, мокреевых, езовитовых, алексюков и им подобных. После Октябрьского переворота в дни организации Совета Народных Комиссаров Западной области и фронта их делегации являются к председателю Сов(ета) Нар(одных) Комиссаров и Минского Совета тов. К. И. Ландеру, чтобы заверить свою лояльность к Советской власти, но одновременно выявить свои требования в вопросах организации белорусских воинских частей, белорусского языка и т. д. Конечно, эти требования были неприемлемы для Советской власти, и белорусские представители ушли ни с чем» (Кнорин В. Г. Избранные статьи и речи.— Минск, 1990, с. 48).

У аснове такой палітыкі лідэраў Аблвыканзаха ляжала непрызнанне беларусаў за нацыю. Гэта быў адзін з першых наглядных урокаў палітграматы для беларускіх дзеячаў, для маладой рэвалюцыйнай дэмакратыі. А больш сур'ёзны ўрок яна атрымала ў снежні 1917 года на І Усебеларускім кангрэсе ў Мінску.

Што гэта быў за кангрэс, і якую ролю адыграў ён у гісторыі беларускага народа?

Кіраўнікі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, пры наяўнасці розных канцэпцый (сёння мы гэта назвалі б палітычным плюралізмам), ставілі перад сабой задачу выявіць волю народа як галоўнага і адзінага гаспадара краіны. Гэтую волю павінен быў увасобіць у заканадаўчыя акты Усебеларускі кангрэс у снежні 1917 года. Ён з'явіўся такой маштабнай падзеяй, якая аказала ўплыў на ўсё далейшае развіццё беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, прадвызначыўшы яго галоўныя, магістральныя напрамкі на цэлую гістарычную перспектыву, прымусіўшы лічыцца з абуджэннем нацыянальнай свядомасці беларускага народа нават і тых, хто ўсімі сіламі спрабаваў з ёю змагацца як з перашкодай на шляху да сусветнай пралетарскай рэвалюцыі.

На Ўсебеларускі кангрэс з'ехаліся дэлегаты ад усіх рэгіёнаў Беларусі, ад усіх арганізацый. Былі там і прадстаўнікі бежанцаў, і тых, хто служыў у арміі ці на флоце, хто жыў у Петраградзе або ў Маскве. Упершыню за ўсю сваю гісторыю беларускі народ паслаў сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў у Мінск, надзяліўшы іх правам вырашаць справы і лёс шматпакутнай краіны, якая з Паўночна-Заходняга краю або з Заходняй вобласці павінна была ператварыцца ў Беларускую Народную Рэспубліку. Тут сабраліся прадстаўнікі розных грамадскіх і палітычных сіл і з небывалым энтузіязмам пачалі абмяркоўваць найскладанейшыя праблемы жыцця.

Каб даць нейкае рэальнае ўяўленне аб самім кангрэсе, давядзецца расказаць пра тую атмасферу, якая панавала на ім. Былі там людзі, якія па розных прычынах не хацелі яго правядзення і прапанавалі адкласці яго пачатак. Ім адказаў Мамонька: «Тыя, хто хоча адкласці з'езд, мабыць, не ведаюць, як цяжка склікаць з'езд: ад імя XII арміі кажу, што мы можам аб'явіць у краіне ўладу. Калі ў Петраградзе бальшавікі без з'езду аб'явілі ўладу, то чаму мы не можам аб'явіць уладу на з'ездзе?» («Белорусская Рада», 1917, № 6).

У гэтай самай газеце «Белорусская Рада» пад датай 7 снежня (ст.ст.) ідзе паведамленне: «Вялікі гістарычны дзень. Сёння вырашаецца лёс праз стагоддзі прыгнечанай Беларусі...»

У рабоце кангрэса з пачатку і да канца непасрэдны і вельмі актыўны ўдзел прымаў Алесь Гарун. Вось што далей паведамляецца пра падзеі таго ж самага 7-га снежня: «Гарачымі авацыямі сустрэлі (...) нашу гордасць Беларусі — былога ссыльнага за яе свабоду Алеся Гаруна». Ён быў абраны адным з ганаровых старшыняў з'езда.

На кангрэсе прысутнічалі прадстаўнікі бальшавікоў. Пра аднаго з іх — беларускага паэта Фабіяна Шантыра — мы чытаем у паведамленні: «Прыгожую, поўную журбы і пяшчоты прамову сказаў наш беларускі бальшавік тав. Шантэр». Гэта быў той самы Шантыр, які потым стаў членам першага беларускага савецкага ўрада і якога неўзабаве самі ж бальшавікі расстралялі.

З'езд стаў вялікай падзеяй не толькі для беларусаў. Тут прысутнічалі і прадстаўнікі іншых народаў, якія з братняй заклапочанасцю і прыхільнасцю сачылі за нацыянальным абуджэннем беларускага народа. Сведчаннем гэтага можа быць наступная інфармацыя «Белорусской Рады»: «Цёплую, поўную трывогі за сваю родную краіну прамову сказаў прадстаўнік украінцаў, які прыйшоў вітаць нас. Тыя гарачыя авацыі, якія выпалі на яго долю, паказалі, што нашы сэрцы б'юцца разам, што мы заўсёды будзем ісці разам рука ў руку з роднай нам Украінай».

А вось як гэтую ж самую прамову ахарактарызаваў праз 20 гадоў адзін з удзельнікаў кангрэса Макар Краўцоў (Касцевіч): «Гром воплескаў пакрываў Зьезд прывітаньне Украінца Кавэрдынскага, калі, паміж іншым, вырвалася з вуснаў яго: «Нашае гора — вашае гора, нашае сьвята — вашае сьвята...» («Шлях моладзі».— Вільня, 1938).

Шчыра віталі з'езд прадстаўнікі розных палітычных напрамкаў і арыентацый, што само па сабе, незалежна нават і ад зместу саміх выступленняў аратараў, моцна падкрэслівала ўрачысты характар і гістарычнае значэнне падзеі. «Гарачыя авацыі выпалі на долю і прадстаўніка мусульманаў, казацтва і прадстаўніка яўрэйскіх аб'яднаных сацыялістычных партый» («Белорусская Рада», № 7).

Выступілі і два афіцыйныя прадстаўнікі «Заходняй вобласці і фронта». Пакуль гаварыў Берсан (народны камісар нацыянальных спраў) як прадстаўнік левага цячэння Польскай сацыялістычнай партыі (так званай ППС-лявіцы), усё было спакойна. Але калі на трыбуне аказаўся нарком унутраных спраў Рэзаўскі і патрабаваў зняць беларускі нацыянальны сцяг, назваўшы яго «нацыянальнай анучай» («тряпкой»), абураная зала загудзела. «Крыкі абурэння», — паведамляецца ў «Белорусской Раде», — паднятыя кулакі, крыкі: «вон» і «долой» былі адказам на «прывітальную» прамову». Два матросы тут жа ўзялі Рэзаўскага пад рукі і сцягнулі з трыбуны.

Гэты эпізод не спыніў работы кангрэса. Выступіў на ім і Алесь Гарун, пра якога ў той самай карэспандэнцыі сказана: «Прыгожую і поўную любві да свайго народа і да ўсіх астатніх народаў прамову сказаў паэт Алесь Гарун. Колькі велічы ў яго прамове. Колькі, відаць, гора выцерпеў гэты сібірскі ссыльны». Некалькі далей аўтар рэпартажа коратка перадае змест яго выступлення: «Мы былі добрымі суседзямі і слухалі ўсіх. Мы, узяўшы ўладу, усім павінны даць свабоду. Мы павінны быць братамі. Не адно мора крыві ўжо вылілася. Мы павінны тушыць пажар. Адно мяне яшчэ здзіўляе. Хіба латыш, зняважыўшы нас, забыў пра сваю радзіму Латвію, або не чытаў зусім газет, дзе напісана, што на 5 студзеня склікаецца Латышскі Ўстаноўчы Сход».

Адзін з прысутных, паказаўшы на Алеся Гаруна, усклікнуў: «Вось за кім мы павінны ісці!»

Адказ Рэзаўскаму даў і Мамонька: «Латышы за самавызначэнне народаў, а гэта нейкія адшчапенцы. Я служыў на фронце побач з латышамі і ведаю, як яны глядзяць на самавызначэнне. Якое маюць яны права патрабаваць кінуць наш сцяг?»

Не застаўся ўбаку ад палемікі і Фабіян Шантыр, які заявіў: «Я разумею левых сац.-рэвалюцыянераў, але калі нам кажуць забыць сваю радзіму — вось гэтага я ўжо не разумею. Асіміляцыя — гэта рабства. Чаму вы сабраліся сюды? Вас прывяло сюды, браты, нацыянальнае пачуццё. Нацыянальнае адраджэнне ніколі не загіне».

Нам цікава зрабіць просты пералік прамоўцаў, прытым не з увагі на прозвішчы, якія ў значнай колькасці сённяшнім чытачам нічога не скажуць, але для таго, каб рэальна пабачыць тыя грамадскія і палітычныя сілы, што паслалі сюды сваіх прадстаўнікоў і на якія такім чынам кангрэс мог апірацца. А выступілі там прадстаўнікі Вялікай Беларускай Рады (Аляксюк), Цэнтральнай вайсковай беларускай рады (Езавітаў), беларускіх настаўнікаў (прозвішча прамоўцы не называецца, а ён гаварыў пра неабходнасць стварэння нацыянальнай акадэміі навук), рэдакцыі газеты «Вольная Беларусь» (Лёсік, яго сустрэлі авацыяй як палітычнага змагара і ссыльнага), Маскоўскай арганізацыі Беларускай сацыялістычнай грамады (Дыла), беларусаў г. Бабруйска (Шантыр), Паўночнага, Заходняга, Паўднёва-заходняга, Румынскага франтоў, Балтыйскага флоту, Балтыйскага флоту і рабочых Фінляндыі, І-га Беларускага палка, паветранага флоту, украінцаў Заходняга фронту, агульнафрантавога казацкага з'езда, Польскага дэмакратычнага саюза, Бунда, Віцебскага народнага саюза, вучняў-беларусаў горада Мінска, левых сацыял-рэвалюцыянераў, бежанцаў Гродзенскай губерні, польскіх сацыял-дэмакратаў...

14(27) снежня 1917 года выбіраецца новы склад прэзідыума: старшынёю становіцца Серада, яго таварышамі (намеснікамі) — Вазіла і Прушынскі. Ганаровым старшынёю абіраецца прафесар Карскі.

Трагічным аказаўся заключны акорд кангрэса. Вось што адбылося там, паводле сведчанняў Макара Краўцова:

«Надыходзіў фатальны мамэнт — ноч з 30-га на 31-га сьнежня (новы стыль.— **У. К**). Справа будучыні Беларусі абгаворана была ў «зямлячаствах» і ў кажным зь іх апрацованы былі дэкларацыі. Зарысаваліся два кірункі: смаленцы, мянчукі, віленцы й горадзенцы выказваліся за якнайбольшую самастойнасьць Беларусі, а віцебляне й магілеўцы не маглі развітацца і з сваім усерасейскім патрыятызмам, снуючы думкі аб Расеі дэмакратычнай (...) Ясна помніцца, што на паседжаньні горадзенцаў Я. Варонка заявіў: «Я ўжо цэлы тыдзень нашу ў партфэлі праект універсалу аб незалежнасьці...»

Дэкларацыі «зямлячстваў» зводзіліся юрыстамі ў вадну абшырную рэзалюцыю, і гэткія кампрамісныя людзі, як адвакат Цьвікевіч, стараліся хоць на паперы прымірыць масквафілаў-магілеўцаў з самастойнікамі. У баковым пакоі вялікае залі Шляхоцкага Дому ішлі гарачыя спрэчкі сяброў Рады Зьезду вакол усялякіх формулаў Цьвікевіча. Каля гадзіны першай уначы з 30-га на 31-га сьнежня, як быццам, быў знойдзены нейкі кампраміс. Янка Серада — старшыня Зьезду — адкрыў яго пленум. (...)

(...) Раптам (...) каля Прэзыдыюму вырасьлі дзьве шэрыя фігуры: (...) нарком унутраных спраў Рэзаўскі й п'яны, у шапцы зь вялізарным бліскучым брылём, нязвычайна хамаваты выглядам, начальнік менскага бальшавіцкага гарнізону Крывашэін.

(...) Серада звоніць, пазбаўляе Крывашэіна слова і ўзнаўляе паседжанне, на якім усе трымаюцца стоячы, не вылучаючы самога старшыні. Сядзіць толькі сакратар Калядка і ўвесь час піша. З маестатычнай павагаю ўзносіцца сярод прэзыдыюму фігура Прафэсара Карскага.

(...) Страшэнны гомат і мітусьня (...) Улавіўшы мамэньцік некаторай цішыні, Рэзаўскі абвяшчае Зьезд распушчаным, а Прэзыдыюм яго арыштаваным».

В. Кнорын наступным чынам удакладніў гэты эпізод: «Ордэр камісарыята ўнутраных спраў (Зах(одняй) вобл(асці) ад 17 сн(ежня) 1917 г. за № 1425 тав. Рэзаўскаму за подпісам т. К. Ландэра: «Акружыць будынак, дзе адбываюцца пасяджэнні Беларускага з'езда, арыштаваць прэзідыум з'езда, а таксама выбраны ім орган краёвай улады, адклікаць са з'езда тт. бальшавікоў і тых, што прытрымліваюцца пункту погляду Савецкай улады, і сам з'езд аб'явіць распушчаным». (Кнорын В. Г. Избранные статьи и речи, с. 48. У далейшым пры спасылцы на гэтае выданне будзе называцца толькі старонка). Варта дадаць, што сам з'езд праводзіўся з ведама і пры фінансавай падтрымцы бальшавіцкіх улад, якія выдзелілі для яго арганізацыі 50000 рублёў.

Сёння мы маем добрую магчымасць атрымаць дадатковае ўяўленне аб тых падзеях, дзякуючы публікацыі А. Сідарэвіча «Пратакол дэлегатаў Усебеларускага з'езда» («ЛіМ», 1990, № 51 ад 21.XII). Асаблівую ўвагу хочацца звярнуць на тэкст рэзалюцыі, зацверджанай адзінагалосна ўдзельнікамі кангрэса: «Усебеларускі З'езд, які сабраўся ў Мінску Беларускім, абмеркаваўшы цяжкое становішча краіны і Беларусі, замацоўваючы сваё права на самавызначэнне, заваяванае Расійскай рэвалюцыяй, і пацвярджаючы дэмакратычны рэспубліканскі лад у межах Беларускай зямлі дзеля захавання цэласнасці Беларусі ў складзе Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі, пастанавіў вылучыць са свайго складу орган краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савета Сялянскіх, Салдацкіх і Рабочых Дэпутатаў, якому ўручыць кіраванне Беларуссю аж да склікання Беларускага Устаноўчага Сходу».

(Працяг на стар. 14).

ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# ЯШЧЭ АДНА НЕДАПЕТАЯ ПЕСНЯ

Ідзе 1932 — 1933 вучэбны год. Мы — студэнты Полацкага белпедтэхнікума. Час вясёлы для нас, хоць і галаднаваты. Рады, што вучымся, пазнаём кожны дзень новае. А яшчэ літаратура, паэзія. Які багаты, нязведаны свет адкрывала яна! І ўжо зусім дзіўна: мы і самі пачынаем пісаць. Ёсць у нас літгурток. Стараста яго Лясовіч Тэрэнт, кіраўнік—выкладчык І. С. Шчасны. У гуртку, апрача нас дваіх і Лясовіча, Рыгор Канавалаў, Сцяпан Турчыновіч, Барыс Пятровіч, цяпер вядомы метадыст.

Мы ведалі, што ў Полацку выходзілі альманахі «Наддзвінне», «Росквіт», «Зарніца», што тут у канцы 20-х гадоў жылі і працавалі ў газеце «Чырвоная Полаччына» П. Броўка, Э. Самуйлёнак, А. Астрэйка, Я. Скрыган, Т. Хадкевіч. Гэта радавала, абуджала натхненне.

Самы актыўны і, бадай, самы здольны сярод нас Тэрэнт Лясовіч. Ён пачаў пісаць вершы яшчэ ў школе, а ў 1932 г. з'явіўся яго верш у друку. Наш стараста сур'ёзна працуе, выступае ў «Чырвонай Полаччыне», якая час ад часу выдавала літаратурныя старонкі з удзелам маладых.

Нярэдка наладжваліся ў тэхнікуме літаратурныя вечары. Зрэдку асмельваліся ісці і ў горад са сваім першым вершаваным словам. Звычайна вёў вечары Лясовіч і з поспехам выступаў сам. Быў ён цікавы малады аўтар, начытаны, падрыхтаваны ў тэорыі вершаскладання, верыў у сваю літаратурную будучыню. Праца ў школе яго не вабіла, і ён пайшоў працаваць у газету «Чырвоная Полаччына». Ездзіў у камандзіроўкі, набываў вопыт журналіста, назапашваў назіранні для творчай работы.

Аднойчы Т. Лясовіч прывёз матэрыял пра нізкі ўраджай у калгасе, незайздроснае становішча ў ім. Матэрыял не змясцілі, а самога аўтара звольнілі з работы, прыпомнілі і тое, што бацька яго, калгаснік, рэпрэсіраваны ў 1937 годзе невядома за што. Такі быў час.

Амаль немагчыма сабраць раннія вершы Лясовіча, бо архіў «Чырвонай Полаччыны» не захаваўся ў Беларусі, а кніжку сваю перад вайной ён выпусціць не паспеў. Дзякуючы стараанням сына Эдуарда некалькі вершаў знойдзены ў архівах Ленінграда.

Самы плённы этап у творчасці Т. Лясовіча быў беластоцкі. Тут мы павінны абаперціся на пісьмы, успаміны яго жонкі Ніны Іванаўны і сясцёр.

Пасля вымушанага беспрацоўя яго ўзялі на работу ў школу выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, а ў студзені 1940 г. былы рэдактар «Чырвонай Полаччыны» забраў яго ў абласную беластоцкую газету, бо вельмі цаніў яго як журналіста і ў свой час быў супраць звальнення.

У беластоцкай газеце «Вольная праца» Лясовіч загадваў школьным аддзелам, узначальваў літаратурную старонку. Працаваў многа і плённа, пісаў вершы, нарысы, рэцэнзіі. Атрымаў у горадзе кватэру, перавёз туды сям'ю. Ніна Іванаўна прыпамінае вечары ў Доме пісьменніка, дзе яны бывалі разам, сустрэчы з М. Танкам, П. Панчанкам, І. Эрэнбургам.

У маі 1941 г. Лясовіча прызвалі ў армію. Быў развітальны вечар, цёплыя провады. Жонка з трохгадовым сынам засталася ў Беластоку. «Як моцна любіў ён сына, як жалобна, кранальна развітваўся з намі, быццам адчуваў, што развітваецца назаўсёды», — піша Ніна Іванаўна.

Неўзабаве прынеслі ім пуцёўку ў санаторый Друскенікі. Там яны і сустрэлі вестку пра вайну. Вярнуцца ў Беласток не было як, з цяжкасцю селі ў цягнік і паехалі ў невядомае. Такім чынам бібліятэка, рукапісы, надрукаваныя творы — усё засталося ў Беластоку, увесь набытак сям'і.

Цягнік абстрэльвалі і бамбілі. На дзевятыя суткі былі яны ў Саратаве, а затым на месцы эвакуацыі ў Новаузенску.

Тэрэнт Лясовіч служыў дзесь на граніцы, а як пачалася вайна, у ліпені 1941 г. разам з таварышамі ён ішоў пешшу ад Беластока да Мінска, але немцы іх абагналі. У Мінску іх схапілі і пасадзілі ў лагер для цывільных. Праз сем дзён выпусцілі. Паранены, ён прыйшоў у родную вёску Лесава, што на Ветрыншчыне. Там ён і тры яго сястры пражылі да зімы. А зімой за сувязь з партызанамі іх хату спалілі. Лясовіч пайшоў у партызаны ў атрад А. Ф. Маханькова, а потым яго ўзялі ў штаб брыгады імя Варашылава (камбрыг Д. В. Цябут). Там ён і нёс службу, працаваў у газеце «Чырвоная звязда», якая некаторы час выходзіла ў тыле ворага. Пісаў гісторыю брыгады, разам з І. Ф. Дубоўскім кніжку пра партызанскае жыццё.

Набліжаўся самы страшны час у жыцці брыгады, усіх партызан перад наступ-



леннем фронту. На пачатку мая 1944 г. у час блакады Тэрэнт Піліпавіч Лясовіч загінуў у Рабчэнскім лесе каля Бабыніч. Ён нёс рукзак з матэрыяламі штаба брыгады, і варожая куля напаткала яго. «Забіты ён быў у галаву. Пахаваць яго, як належыць, мы не мелі магчымасці. Была ўжо раніца, немцы прачэсвалі лес, і мы павінны былі адыходзіць. Але мы знайшлі яму з-пад вывернутага пня, нажамі крыху паглыбілі яе, закрылі яго плашч-палаткай, засыпалі зямлёй»...

Праз некалькі месяцаў сёстры знайшлі месца часовага пахавання брата і перанеслі яго на могілкі ў роднай вёсцы Лесава.

Адзін з нас быў на яго магіле і ўпэўніўся, што яго помняць землякі, аднавяскоўцы і з вялікай пашанай гавораць аб ім.

Сапраўды, вынік жыцця чалавека — яго добрае імя.

Абставіны скл аліся так, што не захаваліся, не знойдзены яго дзённікі, рукапісы, падрыхтаваныя да друку кнігі. На вялікі жаль, не захавалася, не знойдзена і яго літаратурная спадчына пазнейшай пары. Але след яго дзейнасці ўсё ж не згубіўся. Многія надрукаваныя яго творы названы ў каталогу Інстытута літаратуры АН БССР. Ён прыгадваецца ў кнізе Д. В. Цябута «Сквозь огонь» і ў картатэцы Інстытута гісторыі пры ЦК КПБ як журналіст, які напісаў гісторыю партызанскай брыгады імя Варашылава Віцебскай вобласці.

Пошукі яго твораў працягваюцца.

Пра Тэрэнта Лясовіча не ўпамінаецца ў нашым літаратурным друку. Няма яго імя і ў кніжцы «Мы іх не забудзем». Лічым, што гэта несправядліва. Трэба ўзнавіць, хоць і з вялікім спазненнем, яго добрае імя, спачувальна схіліцца перад яго недапетай песняй.

**М.БАРСТОК,**
**І. БЫХАВЕЦ.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Вярніце Беларусі «Помнікі»!

З цікавасцю чытаю навукова-папулярны гістарычны часопіс Беларускага фонду культуры і Таварыства аховы помнікаў «Спадчына». Наўрад ці ў каго ўзнікае сумненне ў патрэбе такога часопіса, бо па няведанні сваёй гісторыі беларусы знаходзяцца, відавочна, на першым месцы ў свеце. Ёсць толькі адна акалічнасць, якая азмрочвае радасць, — са з'яўленнем «Спадчыны» знік інфармацыйны навукова-метадычны бюлетэнь Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі».

«Спадчына» замяніла «Помнікі» і ўжо можна паглядзець, параўнаць ды прыкінуць: што мы атрымалі, а што страцілі. Атрымалі часопіс, які даносіць да шырокага чытача гістарычныя веды. Магчыма, ён стане тым рычагом, з дапамогай якога будзе канчаткова абрынута ў Лету ненавуковая «абэцэдарская» канцэпцыя гісторыі Беларусі. Цудоўна! Страцілі ж мы, ні многа ні мала, — адзіны нацыянальны навуковы гістарычны часопіс. Так, сціплы навукова-метадычны бюлетэнь быў змушаны ў цяжкіх для беларускай гістарычнай навукі варунках узваліць на сябе і цягнуць гэтую ношу, хоць паволі, але цягнуць. Часта бюлетэнь крытыкавалі за нецікавыя, але «ідэалагічна выверaныя» артыкулы на першых старонках, за абмежаваныя памеры публікацый і г. д. Зараз жа, згубіўшы, па-сапраўднаму пачынаем ацэньваць тое, што мелі. Аўтарамі «Помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» былі вясковыя краязнаўцы і акадэмікі. Артыкулы, апублікаваныя ў бюлетэні, лічыліся дастатковымі па навуковым узроўні, каб абапірацца на іх пры абароне дысертацый на гістарычныя тэмы ў Маскве і Вільні, Ленінградзе і Кіеве. Бюлетэнь даваў магчымасць (часта адзіную) неяк заявіць аб сабе маладым навукоўцам. Не менш двух пакаленняў гісторыкаў (і не толькі гісторыкаў) пачынала з «Помнікаў».

Пералічаныя асаблівасці выдання і наяўнасць стабільнай аўдыторыі чытачоў была гарантыяй яго жыццястойкасці і надалей. Лічу, што «Помнікі» папросту зліквідавалі. Знікненне бюлетэня не выпадковае, яно выцякае з сённяшняга стану гістарычнай навукі і асветы. Рэзкі ўздым попыту на гістарычныя веды наклаўся на глыбокі крызіс гістарычнай навукі. Вырас недавер да прафесійных гісторыкаў. Задавальняць «попыт на гісторыю» сталі галоўным чынам не прафесіяналы, а літаратары.

Уяўляецца, што нам вельмі патрэбна адраджаць фундаментальную гістарычную навуку. Менавіта на яе глебе вырастае жывое дрэва гістарычнай асветы. Магчымасць адраджэння маецца, бо былі і ёсць у нас сумленныя гісторыкі, на якіх раўняюцца маладыя. Дастаткова назваць толькі светлай памяці імя М. М. Улашчыка.

Зліквідаванне «Помнікаў» — памылка, якую яшчэ можна выправіць, і патрэбна зрабіць гэта як мага хутчэй.

Яшчэ раз падаю голас за «Спадчыну» і звяртаюся да ўсіх, ад каго гэта залежыць: вярніце Беларусі навуковы часопіс!

**Алесь КРАЎЦЭВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## ЛАЎРЭАТЫ «МАЛАДОСЦІ»

Рэдакцыя часопіса «Маладосць» прысудзіла прэміі за лепшыя творы, апублікаваныя на яго старонках летась. Лаўрэатамі сталі: П. Вераб'ёў (падборка вершаў. № 3), А. Казлоў (кніга апавяданняў «Міражы ценяў», «Бібліятэка «Маладосці»), Л. Кальмаева (мастацкае афармленне прозы ў №№ 1, 2, 3, 6, 7, 11, 12), А. Жынкін (артыкул «Мае дарагія...», № 11), М. Васькоў (артыкулы «Ці не рана святкаваць», № 5 і «Не ворагі, а партнёры». № 7).

## СПАТКАЛІСЯ КРЫТЫКІ

У лютым адбыўся семінар маладых беларускіх тэатральных крытыкаў па тэме «Узаемадзеянне драматурга, рэжысёра і акцёра». які праводзіла кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт ГІТІСа І. Мягкава. Яна прачытала цыкл лекцый-даведак «Авіньёнскі фестываль-1990», «Новыя тэндэнцыі ў заходнім тэатры», «Савецкі камерцыйны тэатр», «Тэатральная сітуацыя Масквы». Адбыліся прагляды спектакляў мінскіх тэатраў, сустрэчы з творчымі групамі спектакляў «Следчая справа Вашчылы» ў Тэатры гістарычнай драмы і «Хто баіцца Рэя Брэдбэры» ў Тэатры-студыі кінаакцёра, а таксама з народным артыстам СССР Р. Янкоўскім. У семінары бралі ўдзел крытыкі з Віцебска, Брэста, Магілёва, Гомеля, Гародні, Мінска. Арганізатар семінара — СТД БССР.

НАШ КАР.

## ЖУРНАЛІСЦКІЯ ПРЭМІІ

Асацыяцыя ветэранаў друку «АЖУР» зацвердзіла тры прэміі лепшым пярвічным арганізацыям Саюза журналістаў Беларусі: 1-я—1,5 тысячы рублёў, 2-я—1 000 рублёў, 3-я—500 рублёў.

Прэміі прысуджаюцца пярвічным арганізацыям, якія з'яўляюцца душой калектыву, актыўна ўдзельнічаюць у творчым працэсе, садзейнічаюць павышэнню ўзроўню публікацый, росту аўтарытэту адпаведнага органа друку, радыё, тэлебачання.

Аб прысуджэнні прэмій будзе паведамляцца ў Дзень друку ў рэспубліканскіх, абласных і раённых газетах, па радыё і тэлебачанні. Палавіна прэміі ўручаецца сакратару, 2-я частка — на патрэбы пярвічнай арганізацыі. Прэміі надзяляюцца статусам Саюза журналістаў Беларусі з прысваеннем звання лаўрэата СЖБ. з уручэннем сакратару адпаведнага знака, а арганізацыі — дыплома.

Акрамя таго, Саюз журналістаў БССР сумесна з Асацыяцыяй «АЖУР» устанавілі тры імянныя стыпендыі студэнтам факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна ў памеры 100 рублёў штомесяц кожная.

Імянныя стыпендыі прызначаюцца з 3-га курса студэнтам-выдатнікам, якія праявілі таленавітасць, эрудыцыю, агульную культуру і ўменне нестандартна выкладаць свае думкі.

Рашэнне журы аб прысуджэнні стыпендый публікуецца ў Дзень друку, а выплачваюцца стыпендыі з 1 верасня новага навучальнага года.

Імянныя стыпендыяты карыстаюцца перавагай пры выбары месца працы.

ПРЭС-ЦЭНТР
АСАЦЫЯЦЫІ «АЖУР».

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара —33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ —33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ —33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ —33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА—33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ —33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС, Юрась ЗАЛОСКА—33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ —33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.



Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12